# Халява! Цяпер на 12 палосах + дадатак!

http://navinki.promedia.minsk.by

НАВІНКІ

ЧОРНЫЯ НАВІНКІ

16 - 26 красавіка 2001 №6(44) Кошт свабодны

## Хто зь Біг-Макам да нас прыйдзе

## На Біг-Мак і пойдзе

Працяг тэмы на стар.6-7

## Пачалося высоўваньне дэлегатаў на II Усебеларускі Зьезд

## НТВ усё ж накрылі

стар.4

## Шпіёнаманія:

Дэпартаваны «чэскі шпіён» Міхал Плавец



стар.5

Стар.8

## Эвалюцыя супрацьву або "huck the sYstem"

## Чарнобыльскі Шлях:

Выбірай варыянт

на стар.12

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс 63439. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@???.user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 16.04.2001г., а 00.01. Тыраж 4600 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №339




## Цытата ў нумар:

*«Вялікую дапамогу Расеі ў працягваньні сацыялістычнага экспэрымэнту аказалі МВФ і Сусьветны банк».*

*Белорусская газета, №14, 2001*

## Зьезд

### Наш дэлегат

У той час, калі працоўныя калектывы пачалі вылучэньне дэлегатаў на Другі ўсебеларускі зьезд, каб прадэманстраваць усяму сьвету ўсебаковую падтрымку курсу існуючага Прэзыдэнта, мы не маглі застацца ў баку. «Вылучыць уласнага дэлегата ад працоўнага калектыву рэдакцыі газэты *Навінкі*!» – такім было нашае натуральнае рашэньне. Чалавекам, якому даверана прадстаўляць наш працоўны калектыў на Зьезьдзе, стаў А.Скаруліс, выдатны работнік, прыкладны сем'янін. Мы ўпэўнены, што ён будзе дастойным прадстаўніком нашага працоўнага калектыву.

# Першай справай – самалёты

Цікавая навіна нядаўна літаральна абляцела Беларусь: аднаўляюцца паветраныя транспартныя сувязі між абласнымі цэнтрамі краіны. Цяпер каб дабрацца, напрыклад, з Гародні ў Гомель ня трэба будзе трэсьціся суткі ў агульным вагоне цягніку Гародня–Унеча. Нейкія паўгадзіны – і кукурузьнік авіякампаніі «Белавія» прыпаркуе вас у патрэбным месцы, не пасьпееце нават і сваю сабойку зьесьці. Кошт гэтага паветранага задавальненьня – 10 тысяч бел.руб. «Многа гэта ці мала?» – спытаеце вы. Прынамсі столькі ж, колькі можа затраціць на звычайны матор сярэднестатыстычны пацан, каб з Малінаўкі зганяць у начнік на Ўручча й вярнуцца назад●




# Дубкаманія




Як вядома, на магіле рок-сьпевака Джыма Морысана на Парыскіх могілках Пэр-Ляшэз заўсёды ашываецца паліцэйскі патруль. Усё таму, што прыхільнікі ягонай творчасьці гэтак і наравяць адкалоць ад каменнай пліты кавалак на сувэнір. На худы выпадак фанаткі проста тыраць з магілы нейкі камень, або крэмзаюць на суседніх склепах каракулі – прызнаньне ў каханьні да вялікага музыкі. Нешта падобнае да морысанаманіі адбываецца сёньня ў Горадні пасьля сьмерці губэрнатара Дубко. На магіле «вэртыкальшчыка» заўсёды дзяжураць пару мянтоў. Грошай зь мясцовага бюджэту на гэта не шкада. Калі б ні міліцыянты, магіла была б даўно раздолбаная на сувэніры, а ўсе могілкі патанала ў графіці: «Дубко – ты бог», «Дубко з намі», «Дубко ты не памёр, ты проста выйшаў пакурыць»... Ужо абвешчана, што будуць уведзеныя стыпэндыі імя Дубко, нейкая вуліца будзе насіць імя Дубко, у горадзе будзе пабудаваны помнік экс-кіраўніку. Нішто ня ў сілах спыніць хвалю эмоцыяў да народнага кіраўніка. Цяжка сказаць, дзе межы гэтага каханьня. Ня будзе сэнсацыяй, калі заўтра на мапе сьвету горад на Нёмане горда панясе імя Дубкаград, Дубкінск, або Санкт-Дубкабург●

# «Зубр»: вайна брэндаў

## Хто мае больш правоў называцца дзікай парнакапытнай жывёлінай?



*Разборкі за гандлёвую марку «Зубр» выходзіць за межы Беларусі. Цяпер у спрэчку ўключылася парляманцкая фракцыя Вярхоўнай Рады Украіны*

Нядаўна дарадчык Прэзыдэнта Сяргей Посахаў горда паведаміў *Народнай Волі*, што дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў разам зь іх расейскімі і ўкраінскімі калегамі плянуецца стварэньне дэпутацкага аб'яднаньня «Зубр». Яго афіцыйная мэта – спрыяньне інтэграцыі трох брацкіх генатыпаў (назва тлумачыцца гэтак: «За саюз Украіны, Беларусі і Расеі»). На першы погляд, праект даволі бязглузды. Ці ня гэткую назву сёньня мае адна з навамодных апазыцыйных груповак? Апошняя славутая тым, што сыстэматычна паганіць грамадзкія месцы і ўнівэрсытэцкія клазэты, пры дапамозе ўлётак, налепак і вандалізму рэклямуючы валасатае парнакапытнае. Ну добра яшчэ Расея альбо Ўкраіна: для іх зубр – карова экзатычная і палітычна амаль нэйтральная (калі не лічыць аднайменную маргінальную фракцыю ў Вярхоўнай Радзе). Але навошта рэспэктабэльным народным выбраньнікам Беларусі спатрэбілася папулярызацыя ўжо раскручанага брэнду сумнеўнай мясцовай паліт-заалягічнай сэкты Аднак, як можа аказацца, за зьнешнім дэфэктам фантазіі парлямэнтарыяў хаваецца цьвярозы разьлік карыфэяў чорнага піару. Замест таго, каб марнаваць грошы падаткаплацельшчыка на прапагандысцкія выкрунтасы на БТ супраць апазыцыйных таўстапузаў (якія, па інфармацыі Прэзыдэнта, хутка атрымаюць 500 млн. у.а. на сваю антыдзяржаўную дзейнасьць), улада знайшла сапраўды віртуознае і эканомнае рашэньне. Схема апэрацыі наступная: апазыцыя пасьпяхова адсмоктвае няхілыя гранты, якія ідуць на раскрутку якога-небудзь «Зубра». Хутка новы брэнд пасьпяхова асядае ў мазгах масавага спажыўца. Уладам жа толькі гэтага і трэба. Яны ствараюць афіцыйную арганізацыю-двайніка і праз нейкі час да паўсюднай апазыцыйнай насьценнай агітацыі проста дадаюцца налепкі, па стылю ідэнтычныя «арыгінальным», дзе будуць даходліва растлумачаны ідэі славянскай інтэграцыі, а ў дадатак да набіўшых аскоміну Махатмы Гандзі і маці Тэрэзы нам будзе лукава ўсьміхацца старшыня Нацыянальнага Алімпійскага Камітэту. Няхай потым контра дакажыць, хто тут сапраўдны «Зубр»●

**Станіслаў Шушкевіч,**
Белавескі зубр

# Тое-сёе пра балцкі субстрат

Адзінае, на што наўрад ці пасягне чужаземны капітал – гэта на вытворчасьць мясцовых «пладова-ягадных напояў»

Ванадальская акцыя выліваньня піва «Балтика», арганізаваная «Маладым Фронтам», шакіравала беларускую піўную грамадзкасьць. Вось так, узяць і выліць на зямлю 20 бутэлек піва! Рабочы клас ірваў на сабе блузы: «Балтику»? На зямлю?! Ды я цябе!..» Бамжы перадавалі адзін аднаму ксэракопіі *Беларускай Маладзёжнай*, на старонкай якой уваходжы ў кулуары БНФ журналіст С.Пульша бажыўся, што бліжэйшым часам МФ будзе паўтараць такую акцыю штодзённа ў раёне вакзалу.

Але, калі першы хмель ад піва «Аліварыя» ўжо прайшоў, самы час зірнуць на гэтую праблему цьвярозым позіркам. «Купляйце беларускае!» – лёзунг абароны айчыннага вытворцы дзіўным чынам пераплятаецца ў зьвілінах маладых апазцыянэраў са змаганьнем з дыктатурай. Адурманеныя бесканцовымі маленьнямі й пастамі, маладыя нацыяналісты не разумеюць, што башляць свае кроўныя за прадукцыю беларускіх бровараў, якія цалкам належаць дзяржаве – гэта акурат і ёсьць прамая фінансавая падтрымка дыктатуры гора-патрыётамі з МФ. Тымчасам як нежаданьне набываць (але, шаноўныя маладафронтаўцы, перш чым выліць, праклятае маскальскае піва ўсяроўна трэба набыць) прадукцыю скандынаўскага канцэрну «Baltic Beverage Holding» (якой акурат і належыць ААТ «Балтика»!) ну ніяк ня вяжыцца з рыначнымі канцэпцыямі апазыцыі па прыцягненьні ў пэрспэктыве заходніх інвэстыцыяў у Беларусь. Уся ж бяда для мясцовых дэмакратаў у тым, што заходнія інвэстары зусім не зьбіраюцца чакаць перамогі апазыцыйных сілаў і канчатковага трыюмфу дэмакратыі й рынкавай эканомікі ў Беларусі, а ціхім сапам ужо падбіраюць пад сябе нашую прамысловасьць. і ім усё роўна пад якімі шыльдамі, заходнімі ці ўсходнімі.

Калі сьледаваць лёгіцы абароны ўсяго беларускага, то ў якасьці наступнай акцыі «Маладога Фронту» варта чакаць раскурочваньне грузавіка «MAN» перад амбасадай ЗША у знак пратэсту супраць СП (а фактычна валоднаньня) MAN і роднага МАЗ, або на худы канец пагром МакДональдсаў●

**Таймураз Балоеў**




## Ці зьяўляецеся вы стопрацэнтным прыхільнікам Севярынца?

*Тэст для сяброў Маладога Фронту і тых, хто да яго не належыць.*

Каб вызначыць для сябе гэта пытаньне, прапануем прайсьці нескладаны тэст. Некаторыя з гэтых цытатаў пазычаныя намі з інтэрвію П.Севярынца, якое ён даў газэце *Свободные Новости* ад 6.04.2001, іншыя – належаць іншым дзеячам і асобам. Калі вы –сапраўдны маладафронтавец, то палітычнае чуцьцё вас не падвядзе, Бог наставіць вас на ісьцінны шлях і вы лёгка аддзеліце родныя выразы ад славеснага атэістычнага шлаку. Калі ж не – вам лепш забыць шлях на Варвашэні-8, і паспрабаваць рэалізаваць сваё палітычнае маджо ў якасьці сябра іншай арганізацыі. (Памятайце: на кожнае пытаньне трэба адказаць «так» або «не», усё астатняе – ад лукавага.) З Богам!

**Севярынец сказаў, што:**

1. 16 тысяч рублёў штомесяц на жыцьцё. Мне хапае.
2. Наша мэта – манэтарызм.
3. У Госпада Бога ёсьць віды на Беларусь.
4. Любімы занятак – маліцца або пасядзець каля тэлевізара.
5. Гэта я -- сантэхнік з вашага ЖЭСу.
6. Эталён жанчыны – бландзінка з добрымі формамі.
7. Увогуле па магазінах не хаджу. Вопратку мне купляюць або дараць на сьвяты маці, або сястра.
8. Веліка Расея, а адступаць няма куды. Пазадзі Масква!
9. Ня ўсе ёгурты аднолькава карысныя.
10. Ларысу Іванаўну хачу.

**Праверце вашы адказы:**

Так: на пытаньні 1, 3, 4, 6, 7;
Не: на пытаньні 2, 5, 8, 9, 10.

1-5 правільных адказаў: Наўрад ці вы зможаце ўпісацца ў фармат сучаснага маладога дэмакратычнага руху. Паспрабуйце сябе ў шэрагах БПСМ. Чытайце болей Біблію і Эвангельле.

6-10: Вы – там дзе трэба. Зараз ніякіх мукаў сумленьня. Наперад у крыжовы паход супраць дыктатуры пад бел-чырвона-белай харугвай. Любіце ўсіх – Госпад разьбярэцца, хто свае. Амінь.

# Хавайся! Бацька едзе!



Барысаўскі форвард Абрамовіч закалаціў «банку» Шчукіну

Стагодзьдзямі лічылася, што беларускімі нацыянальнымі гульнямі зьяўляюцца падкідны дурань і літарбол. Прыйшоў час уносіць карыктуры. Як сьцьвярджае «Рэзананс», сярод апазыцыянэраў разгорнуць неафіцыйны турнір на званьне абсалютнага палітычнага рэцыдывіста. Гульню занес да нас амэрыканскі амбасадар Козак, які башляе кожнаму палітзэку па чырвонцу даляраў за суткі адсідкі. Некалькі гадоў нязьменным чэмпіёнам краіны ў гэтым экзатычным відзе спорту лічыўся Валеры Шчукін. Пра ягоную апошнюю ходку, сьведкі і праз колькі гадоў будуць распавядаць прашчурам. Некалькі разоў міліцыянэры спрабавалі адцясьніць барадатага рэпарцёра ад будынку, дзе праходзіла нейкае афіцыйнае мерапрыемства. Аднак хіба можна стрымаць улюбёнца публікі, якому Зімоўскі даў мянушку «Гібель эскадры»і Ён з разьбегу пратараніў чалом шкляныя дзьверы і адразу пайшоў на 15 сутак за хуліганку. Перафразуючы спартовага камэнтатара Новікава, абаронцы (мянты) толькі поглядам яго праводзілі. Брава!

Аднак, ня гледзячы на незабыўны праход, у мінулым годзе чэмпіёнскія лаўры дасталіся ня «гібелі эскадры», а лідэру барысаўскіх дэмакратаў Абрамовічу. Апошні ўмудрыўся правесьці на нарах 165 дзён, або кожны трэці дзень у годзе. Цудоўны вынік, і амэрыканскі прыз – 1650 даляраў уходзіць у Барысаў. Новы сэзон 2001 году распачаўся з сур'ёзнай заяўкі чэмпіёна. Барысаўская Навадворская ў штанах замуціла пікет «Рукі прэч ад НТВ». Нават калі б мясцовыя ўлады вельмі хацелі, яны б нічога не маглі зрабіць, каб задавальніць патрабаваньні пікетчыкаў. Бліскучая акцыя! За яе амэрыканцам прыйдзецца выкласьці стольнік (Абрамовічу далі дзесяць сутак). Што адкажа на гэта вялікі Валерый і Ня будзем скідваць з рахункаў і сяброў Фронту. Адным словам інтрыга турніра на прыз дзяждэпартамэнту ЗША завязваецца.

Сэзон толькі пачаўся, таму вы таксама маеце цудоўныя шанцы ўмяшацца ў спаборніцтва. Замест таго, каб батрычыць за станком за нешчасных палціньнік, або праціраць штаны за студэнцкімі партамі, займіцеся спортам. Хутчэй на сьвежае паветра, на вуліцы, у шэрагі дэманстрантаў і пікетчыкаў. Хто ведае, можа ў вас гіне крымінальны талент. У такім разе кар'ера палітычнага рэцыдывіста і афігіцельныя ганарары вам забясьпечаны! Калі ж здароўе не дазваляе вам стаць чэмпіёнам, прапануем вам лавіць фартуну і згуляць у прапанаваную нашай рэдакцыяй гульню «Палітычны гіпадром». Яе правілы нагадваюць конныя бягі, толькі тут замест рысакоў выступаюць палітыкі. Напярэдадні скачак – «Чарнобыльскага маршу» – безумоўна адбудуцца новыя арышты. Хто будуць гэтыя новыя ахвярай рэжымуі Пастаўце грошы на свайго палітычнага ўлюбёнца і чакайце зводак праваабарончых арганізацыяў. Калі вашага выбраньніка павяжуць, на дне вашай кішені зьявіцца нейкая капейка. Палітычныя букмэкеры прапануюць наступныя стаўкі.

Севярынец – 1:2
Вячорка – 1:4
Бяляцкі – 1:3
Шчукін – 1:1,01
Высоцкі – 1:250

Рабіце вашыя стаўкі, спадарства! Грашовыя пераводы высылайце на адрас рэдакцыі. Жадаем посьпехаў ●

**Эдуард Малафееў,**
ТРЭНЭР ЗБОРНАЙ ПА СПАРТОВЫМ СЫТЫНГУ

## Мясушка

### Хто зьеў наш біфштэкс

Хто жрэ наша мяса? Я зь дзяцінства памятаю нашыя сямейныя выправы з роднай Гародні ў суседні Друскінінкай па каўбасу. Мы прыяжджалі і віхрам праносіліся па іхніх лабусаўскіх крамах. і не пасьпявалі пышнагрудыя літоўкі прамямліць сваё «Лаба діена», як мы ўжо сядзелі ў хаце й трускалі «кантрабанду». Калі літоўцы зразумелі, па які хрэн гэтыя «твары гарадзенскай нацыянальнасьці» зьяўляюцца на вуліцах Друскінінкая, нянавісьці мясцовых «крэстоў» не было апісаньня. І ўжо наступным разам мы чулі агідную зьнявагу ў свой бок: «Каўбасьнікі». Калі пачалося ўсім вядомае змаганьне літоўскага народу за перастройку, мой дзядуля, які працаваў у прыбіральні райкаму партыі, і ясная справа быў не прафанам у геапалітычных раскладах, сказаў: «А што вы хацелі, каўбасьнікіі Думалі, доўга літоўцы вашыя вылазкі цярпець будуцы» Так і засталася ў маёй памяці каўбаса, як галоўная прычына аддзяленьня прыбалтаў. і я б напэўна не ўзгадаў бы гэтую гісторыю, каб яна не паўтаралася сёньня. Над нашым славянскім саюзам Расеі, Беларусі і Казахстану, навісла вялікая небясьпека з усходу, і называецца яна «мясьнікі». Уся Расея, са сваімі марамі, рэкамі, гарамі і тундрай, бессаромна тырыць наша мяса. А калі быць больш дакладнымі, то мяса нашых беларускіх буронак. Нядаўна супрацоўнікамі нашага роднага УКДБ на КПП «Азярышча» быў затрыманы рэфрэжыратар з гавядзінай. Нашыя бойкія хлопцы-кадэбісты прадухілілі спробу кантрабанды «мясьнікоў» 34.872 кілаграмы нашага беларускага мяса, каштоўнасьць якога ў грашовым эквіваленце выносіць каля 52 тыс. даляраў. Усё гэта дабро, было канфіскавана на карысьць нашае дзяржавы. Як пра гэта падумаю, ажно на душы тёпла становіцца. Толькі вось пытаньне застаецца не зачыненае. Дык ХТО, усёжтакі жрэ нашае мяса?!

# Асасіны з «Хартыі'97»

## Рыхтуюцца спэдпадразьдзелы ад апазыцыі



*У той час, калі кіраўніцтва краіны мужна змагаецца з уплывам дэструктыўных рэлігійных аб'яднаньняў і сэктаў, некаторыя апазыцыйныя арганізацыі бяруць на ўзбраеньне самыя жудасныя мэтады заходніх і ўсходніх цемрашалаў.*

Падазроная арганізацыя *«Хартыя'97»* ужывае бесчалавечнае замбіраваньне й прамыўку мазгоў па сыстэме сярэднявечнай ісмаіліцкай сэкты асасынаў ("асасын" на многіх эўрапейскіх мовах — "забойца"). Калісьці на паўднёвым захадзе ад Касьпійскага ўзьбярэжжа стаяла непрыступная горная крэпасьць Аскалот, дзе жыў кіраўнік асасынаў — Горны Дзед. Ён выкрадаў у навакольных вёсках маленькіх хлопчыкаў і выхоўваў іх у адмысловых умовах. Яны жылі ў раскошы, у іх заўсёды была самая лепшая пайка, гашыш (адсюль, дарэчы, і назва сэкты) і дзявочая дзірка (лепей, чым у султанскім гарэме). Аднойчы ноччу сьпячага юнака выносілі з гэтай маліны й казалі, што калі ён хоча вярнуцца назад у рай, то трэба замачыць такога й сякога правіцеля ці выканаць яшчэ нейкае складанае заданьне. Зразумела, што абалванены наркотыкамі й беспарадачнымі полавымі кантактамі, хлапец ішоў і выконваў загад Горнага старога, нават рызыкуючы сваім жыцьцём.

Сёньня ў ролі Горнага Дзеда выступае ачольнік юнацкай арганізацыі *«Зубр» — «Хартыя'97».* Пасадзіўшы на 15 сутак за несанкцыянаваны пікет каля рэзыдэнцыі прэзыдэнта простага барысаўскага хлопца Антона Цялежнікава, лаўцы юнацкіх душ не спынілі сваёй чорнай справы. Калі Антона выпусьцілі з Акрэсьціна, яго зноўку чакалі ягоныя псэўданастаўнікі. Яны адвялі хлопца спачатку ў лазьню (фінскую?), а потым у пантовую менскую рэстарацыю "Патіо-піца". Толькі ўявіце, што павінен адчуваць бясьхітрасны юнак, які 15 сутак еў толькі жудасную кашу раз у дзень і мыўся халоднай вадой над парашай, пасьля гэтага? Бясконцую адданасьць у дачыненьні да сваіх быццам бы дабрадзеяў. Бо ці змог бы ён сам калі-небудзь наведаць гэты круты рэстаран, расплаціцца з уласнай кішэні за імпартовыя прысмакі? Толькі ў сваіх марах.

Адумайся, Антон! Расплюшчы свае вочы! Лепей бы ты й не выходзіў з Акрэсьціна. Там гэтыя асасыны да цябе не дабяруцца ●

**Мікола Гусоўскі**

## Есьці жаб?

**Днямі *Народная Газета* апублікавала рэцэпт прыгатаваньня жабіных лапак. Пры гэтым аўтар заўважае, што беларускія лапкі лепей, чым французскія аналягі паводле сваіх густавых якасьцяў. Паколькі *Народная Газета* зьвязаная з вышэйшымі сфэрамі ўлады, ня цяжка зразумець, што гэта ўсё ня проста так. Верагодна, сытуацыя на прадуктовым рынку хутка будзе такой анамальнай, што самы час вучыцца лавіць і смажыць жабіныя лапкі.**

## *Хавайся! Бацька едзе!*

Як разумець гульню ў хованкі падчас візыту бацькі ў беларускія рэгіёны Уявіце сабе, што еду я ва ўнівер пасьля сьвяткаваньня сваго дня нараджэньня, і раптам бачу, што за кіёскамі, за дрэвамі й кустамі хаваюцца... мянты! Звычайна яны такія, крутыя, што нават праходу не даюць. А тут - хаваюцца. Ну ўсё, думаю, дапіўся. Выходжу з аўтобусу і крочу да ўніверу, а яны ўсё хаваюцца і па рацыі балыкаюць. Уваходжу ў фае свайго ўнівэрсытэту і ведаеце, бегчы хочацца. Бо ў фае стаіць каля 30-ці мянтоў. Стаяць і ў вокны пазіраюць. Падыходжу да свайго сябра з групы, а ён радасна апавядае: «Супакойся, гэта ня белая гарачка, гэта бацька прыехаў з народам паразмаўляць. Калі камэра пачынае размову здымаць, мянты адразу хаваюцца, каб глядач між іншым не падумаў, што прэзыдэнт без аховы на вуліцу выйсьці баіцца». Сябра крышку пасмутнеў, і гаворыць: «А, калі ён да нас у Краснасельк прыяжджаў, і Лука па дарозе з Начальнікам крочыў, то міліцыя па сыгналу начальніка падала на глебу, каб не патрапіць у аб'ектыў тэлекамэраў. Во гумора была!» і тут мне прыйшла ў галаву шалёная думка: Бацька-та за клопатамі дзяржаўнымі можа й ня ведае, як зьдзекваюцца апэратары над мянтамі. Бедная беларуская міліцыя ●








# Ім там усё відней.

Ня так даўно прэзыдэнтам і ўрадам было прынята рашэньне адпусьціць кошты на новую порцыю прадуктаў. Апускаюць кошты, апускаюць нас, прынамсі, на новы жыцьцёвы ўзровень. Аднак вышэйшая асалода для лібэрал-мазахістаў заключаецца ў тым, што бацька робіць над імі такую балючую апэрацыю ня толькі па асабістым хаценьні, аднак і з улікам рэкамэндацыяў МВФ. У асяродзьдзі прасунутых рыначнікаў у чудадзейную карысьць гэтай фінансавай арганізацыі прынята верыць безумоўна, як раней савецкія камуністы верылі ў генэральную лінію КПСС. Лічыцца, што адзін дотык да крэдыткі з траншу МВФ або Сусьветнага Банку могуць аказаць ня меншы аздараўляльны эфэкт, чым кантакт зь сьвятымі мошчамі Кіева-Пячорскай Лаўры. У апошні час на прасторах СНД разгарнуўся сапраўдны тэндэр за права ў тоўстых дзядзяў. У жорсткай канкурэнцыі змагаюцца ўсе бацькі нацыяў – ад туркменскіх падышахаў да разбэшчаных па-эўрапейску балцкіх лідэрасаў. У гэтым сэнсе беларуская палітычная эліта доўгі час знаходзілася ў цяжкай сытуацыі клясычнага любоўнага трохкутніка. З аднаго боку яе славянская душа ільнула да вялікай славянскай суседкі. За розныя сымбалічныя паслугі ў выглядзе адных толькі размоваў аб чыста братэрскай інтэграцыі тут можна было нарубіць хоць і не вялікія, аднак рэальныя бабкі. Аднак гэтая халява працягвалася да таго часу, пакуль у партнэрах хадзіў стары і хворы Ельцын. На сапраўднае саіцьце ён быў ужо ня здольны, ну й пускаць міт аб тым, што ён яшчэ здольны давесьці маладых беларускіх палітыкаў да славянскага экстазу, яму вельмі каціла. Такім чынам ён кампэнсаваў свае комплексы і віну перад гігантамі вялікага імпэрскага сэксу. Аднак пераемнік Ельцына аказаўся куды маладзейшы і агрэсіўнейшы. Ён адпаведным чынам рэагуе на ўсе аб'екты, якія варушацца ў бліжэйшых пустках, што прылягаюць да забору Расейскай Фэдэрацыі. І нашаму бацьку прыйшоў самы час сьцерагчыся гэтага маньяка. З другога боку, з Захаду пакруцей у пляне лавэ і па мордзе адразу таксама ня б'юць. Аднак тут без канкурэнтаў з дэмакратычнай апазыцыі цяжка сунуцца. Гэтыя афэрысты ўсе мозгі заходнім клієнтам пракампасіравалі, аб тым як тут зь імі блага абыходзяцца: б'юць, парушаюць правы і ўсё такое. Яны, бычыш, эўрапейцы, гатовыя на сур'ёзныя дачыненьні зь дзелавымі мужчынамі. Аднак, наша прэзыдэнцкая гвардыя была таксама ня лыкам шыта, і пакуль апазыцыянэры заломвалі рукі ў прамым сэнсе на ўсялякіх маршах, вараціло прэзыдэнцкага бізнэсу заняліся з Захадам канкрэтнымі справамі. Для прывабнасьці кліентуры вызваляюць яе ад падаткаў, пускаюць іншаземцаў у запаведнікі страляць дзічыну, учыняць лесапавал у сакральных намэнклятурных кушчах – Белавескай пушчы. Калісьці гэтак рабіў другі бацька – Булак-Балаховіч, які зьнішчаў Белавескі лес, працуючы на ангельскую канцэсію. А сёньня швэдзкія сацыял-дэмакраты едуць да нас на сэмінар па дэмакратыі. У тым жа самалёце той жа бізнэс-клясай ляціць швэдзкі капіталіст у госьці да сваіх сяброў з каляпрэзыдэнцкіх камэрцыйных структураў, каб разам драпежна вырубаць былы Прыпяцкі запаведнік. Дэмакратыя, дэмакратыяй, а дравішкі, вядома, важней. Яны, у Швэцыі ўсе даўно панялі.

# «Малые рощи»

## альбо будаваньне апартэіду па-беларуску.




***У працяг тэмы пра дамафоны (Навінкі, №4, 2001) мы зноў зьвяртаем увагу на далейшую жыльлёвую сэгрэгацыю паводле сацыяльнага прызнаку. Раёны для багатых і гета для бедных?***

*Нечаканы працяг атрымала тэма, якую Навінкі закранулі ў адным з сваіх апошніх нумароў. Нагадаем, што тады размова йшла пра дзяржаўную рэклямную кампанію сыстэмы «зачынены пад'езд» (усталяваньне дамафонаў і кодавых замкоў). У якасьці асноўнага аргумэнта на яе карысьць хітрадупыя ўлады выстаўлялі магчымасьць забесьпячэньня чысьціні і бясьпекі, дзякуючы абмежаваньню доступу ў пад'езды іншародных індывідаў. Праект нам спадабаўся, але расчараваў сваёй непасьлядоўнасьцю і трусьлівай палавінчатасьцю (ах, генэтычная беларуская памяркоўнасьць!). Чаму абмяжоўвацца толькі пад'ездамі Чаму трэба, каб камфорт і спакой панавалі толькі на лесьвічнай пляцоўцы А двор, вуліца, мікрараёні На гэтыя грамадзкія прасторы мы прапанавалі таксама пашырыць лёгіку і прынцып «зачыненасьці». і не памыліліся.*

Жопу на підара, што тады мы мала спадзяваліся быць пачутымі. Нават пад мухаморамі мы не змаглі б памарыць пра тое, што нашыя сьмелыя парады хутка знойдуць водгук у закамплексаваных беларускіх чынушаў. Тым ня менш, нядаўна газэты *Белорусская Недвижимость*, *Белорусский Рынок* і іншыя пэрыядычныя выданьні апублікавалі аднолькавы рэклямны артыкул. У ім загадкавым тонам паведамляецца, што вось-вось у Менску ў мікрараёне Ўручча пачнецца будаўніцтва **«ўнікальнага па нашых мерках жылога комплексу «Малые рощи»**. І далей: **«Комплекс уключае ў сябе тры аднапад'ездных шасьціпавярховых цагляных дома клясы «люкс» па 15-20 кватэр у кожным са спартыўным клюбам, саўнай, більярднай, падземным гаражом-стаянкай»**. Банальна, хаця прачытаўшы ўжо такое, у некаторых у зобу сьпірае дых, а сьліны спакусы і зайздрасьці пачынаюць цекчы як вада са сьліўнога бачка. Але, што тут сапраўды ўнікальнае – дык гэта сыстэма бясьпекі, якой пазайздросьціў бы оруэлаўскі Big Brother. Патэнцыйным пакупнікам абяцаюць:

**«Аўтыматызаваны кантрольна-прапускны пункт, агароджу, падсьветку і азеляненьне тэрыторыі забудовы, якая мае ўласныя пляцоўкі для ціхага і актыўнага адпачынку дзяцей і дарослых»**. Дадамо яшчэ **«ўнутраную сыстэму відэанагляду»**, пры дапамозе якой бацькі змогуць назіраць за сваімі карапузамі, што разьвяцца на двары – і, калі верыць рэклямадаўцам (ангельскай фірме HiperComm Development і менскаму агенству нерухомасьці «Твая сталіца»), навуковая фантастыка тройчы сасала.

А цяпер паглядзім, адкуль растуць і куды цягнуцца цэпкія лапчонкі гэтага сьціплага цуда абаронччай архітэктуры ў «строгім ангельскім стылі». Спачатку мысьленна перанясемся ў Паўднёвае паўшар'е – туды, дзе зараз залатая восень і хутка пачнуцца іхныя «Дажынкі».

Горад Ёганэсбург, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка. За слаўнымі часамі апартэіду тут дзесяцігодзьдзямі «мірна» суіснавалі дзьве арыгінальныя субкультуры: чорная большасьць і, хоць і загарэлая, але белая меншасьць. Дзякуючы дасканаламу заканадаўству, якое дакладна рэглямэнтавала месцы, куды негры маглі і куды не маглі прыпёрціся (сесьці, легчы, пукнуць...), белыя спакойна, без турбот і клапот, жылі ў цэнтры горада пад клапатлівай апекай спэцпропускаў і паліцыі. Але ў 1991 годзе ўсё пайшло наперакасяк: чорныя абарванцы з навакольных трушчобаў (townships) атрымалі роўныя правы з заможнымі бледналіцымі, у тым ліку свабоду перамяшчэньня. Гэта безумоўна не азначае, што чорныя трушчобы зьніклі, альбо што ў іх перасяліліся белыя. Галоўнае, што зьмянілася – гэта тое, што зараз удзень многія нягрылкі сьмялеюць і беспакарана выбіраюцца з сваіх баракаў у цэнтар на працу альбо проста патусавацца (калі працы няма). Дадамо да іх нованароджаную чорнаскурую «сярэднюю клясу», якая з прыходам да ўлады Мандэлы атрымала магчымасьць і сродкі набываць жыльлё ў традыцыйна «белых» цэнтральных кварталах. Гэткая нахабнасьць расавых плебеяў павергла высакародных «сьняжкоў» у вялікі смутак (бо багатыя таксама плачуць). Баючыся за сваю сраку і дастатак, белая эліта пачынае масава зьяжджаць на пэрыфэрыю гораду, дзе стварае свае жылыя анклавы з усімі атрыбутамі асаджанай крэпасьці: кантрольна-прапускным пунктам, агароджай, відэанаглядам... Нягледзячы на фармальную роўнасьць, расавы апартэід аўтаматычна зьмяніўся апартэідам сацыяльным, а на зьмену дзяржаўнай паліцыі прыйшлі прыватная ахова.

Паляцелі далей, трошкі на поўнач і на захад. Падобная тэндэнцыя да стварэньня агароджаных мікрараёнаў клясы «люкс», дзе нешматлікія, багатыя, чыстыя і бясшкодныя хаваюцца ад шматлікіх, бедных, брудных і небясьпечных (і, у дадатак, у некаторых краях, каляровых), існуе ў многіх краінах і, як правіла, зьяўляецца вернай спадарожніцай нэалібэральных рэформаў і, найперш, дэградацыі сацыяльнай жыльлёвай палітыкі (і сацыяльнага забесьпячэньня ўвогуле). Зьяўляючыся наступствам росту няроўнасьці (а, значыць, і грамадзкай напружанасьці), мода на гэткія «жылыя комплексы» мала залежыць ад агульнага ўзроўню эканамічнага разьвіцьця краіны. З «Малыми рощами» мы маглі б аднолькава пасьпяхова параўнаць і шматлікія амэрыканскія gated communities («агароджаныя супольнасьці»), і нічым ад іх не адрозныя бразыльскія condominos fechados, і іхныя мэксыканскія клоны (fraccionamientos cerrados), і ідэнтычныя ім г.зв. countries у Аргентыне, і іншыя barrios privados (прыватызаваныя раёны). Але нам да іх яшчэ як далёка.

Каго трэба вінаваціць (альбо ўхваляцы) за стварэньне ў нашых гарадах «гетта» для багатых Толькі сябе саміх. Мы – простыя людзі – сапраўды дасталі «новага рускага». Ён быў да нас усёй душою – дэманстраваў нам свае залатыя ланцугі, эстэтычна радаваў вока новым «мэрсам», даваў патрымаць свой сотавік і паслухаць, як цікае на ягонай руцэ швайцарскі «ролекс», упрыгожваў лесьвічную пляцоўку браніраванымі дзьвярыма з пазалочаным нумарком. А што мы На гэтыя знакі ўвагі мы адказалі чорнай няўдзячнасьцю: складалі за яго сьпіной анэкдоты, пісалі на крыле «мэрса» ненарматыўную лексыку, мачыліся на тую ж дзьвер. У выніку ў чалавека проста здалі нэрвы і ён вырашыў зьбегчы ды схавацца ў асобным агароджаным раёне ●

**Хадор Няедаў**

# НТВ накрылі

*К*анфлікт на НТВ стаў для беларускіх дэмакратў апэркотам. Каб адтэрмінаваць накаўт, яны ладзяць дэманстрацыі, пікеты, зборы подпісаў пад пэтыцыямі. Забарону ўжо НТВ параўноўваюць з пахаваньнем свабоды слова й дэмакратыі. Людзі не здагадваюцца, што ў Маскве хаваюць ня рупар дэмакратыі, а дыктатара, злачынства якога пакуль ім не вядомыя. Пачнем з таго, што ніякай аб'ектыўнасьці на ТБ не бывае. НТВ, БТ, ці MTV, паўсюль гледачу навязваецца пэўная карціна сьвету, у якой для яго ўжо падрыхтаванае і месца, і пэўны вызначаны сцэнар паводзінаў. Такім чынам, людзі пачынаюць успрымаць здарэньні (сытуацыі) не непасрэдна, а апасрэдавана праз нейкія пабачаныя стэрэатапы. Напрыклад, сёньня шмат моладзі будуе адносіны з амэрыканцамі адпаведна таму, як гэта выглядала ў папулярным фільме «Брат-2»: «вот уроды», «скажы мне, амэрыканец» і гэтак далей. Гэта тычыцца ня толькі спажыўцоў мэдыя, аднак і да тых, хто аказваецца акторам такога спэктаклю (відовішча).

Гэтак, каб беларускаму дэмакрату засьвяціцца на НТВ, трэба выконваць нейкія рэжысэрскія ўстаноўкі: рабіць мужную грымасу мучаніка за дэмакратыю, гаварыць пафасныя рэчы, фільтраваць базар і г.д. Напрыклад, выпадак са спаленьнем расейскага сьцягу на Дзень Волі. У будуарах беларускіх партыяў усе проста канчалі ад гэтай акцыі. Аднак не пасьпелі прыйсьці тэвээншчыкі, усё зьмянілася. Выкаціўшы вочы, палісмэйкеры асуджалі экстрэмісцкую правакацыю, якая можна сапсаваць адносіны




паміж нашымі народамі. Чаму яны не казалі, што думаюцы Таму што інакш іх бы ніхто больш на НТВ не запрасіў. А без НТВ няма папулярнасьці. Дэбютантка ў Галівудзе пагаджаецца трахацца з прад'юсэрам, бо ведае, што бяз гэтага не атрымаць ролі. Палітыкі ілгуць, каб выглядаць рэспэктабэльнымі мужамі, пад якіх могуць даць бабло. Таму «засьвяціцца» стала квінтэсэнцыяй беларускіх палітыкаў. ТБ канцэрны й мэдыяімпэрыі, усё гэта ня мае аніякага дачыненьня да свабоды слова, іх трэба замяніць жывой новай камунікацыяй між людзямі.

Рэклямная паўза ●

**Яўген Кісялёў**

# Экстрэмальны турызм

*Перш чым зьбірацца на адпачынак у Гішпанію альбо Турцыю, тысячу разоў адкажыце на пытаньне: ці зьбіраецеся вы вяртацца на Радзіму?*

**ЭТА** – падпольная тэрарыстычная арганізацыя, што замагаецца за ставарэньне незалежнай Краіны Баскаў на тэрыторыі, падзеленай сёньня між Гішпаніяй і Францыяй. З часу заснаваньня ў 1956 годзе зрабіла панад 800 тэрактаў. Найбольш вядомая акцыя – забойства намесьніка дыктатара Франка – адмірала Бланка ў 1973 годзе. У сьнежні 1999 году аднабакова разарвалі мірныя пагадненьні з урадам, і аднавіла ваенныя акцыі. За год было забіта 28 асобаў, пераважна прадстаўнікоў улады.

Пачну з эвалюцыі іміджа туриста ў народнай сьвядомасьці. У каго як, а ў файлах маёй памяці такіх клішэ можна налічыць тры.

Яшчэ гадоў 30 таму любы кантакт з іншаземцам лічыўся палітычным злачынствам. Чые мозгі не заплыла антыамэрыканская прапаганда! Потым, як толькі дваццатае стагодзьдзе разьмяняла восьмы дзясятак, эталёнам снабізму раптам сталі штаны «мантана» і бубль-гумкі. Трафік Дональд-гамаў і джынсаў праходзіў праз холы гатэлю «інтурыст», таму іх пастаяльцы адразу сталі буськамі. Як далёка зайшла гэтая страсьць у 90-ыя, вам вядома. Вобраз інтурыста падняўся ў вачах да статуса мэсіі. На старонках прэсы турызм – ні больш ні менш – стратэгія адраджэньня краіны. Трэба толькі разьвіць інфраструктуру і, як кажуць па той бок Буга, wszystko bedzie zajebiste. Не пасьпее на Захадзе нейкі бюргер раскрыць праспэкт Белінтурыста, як Купідон уванзіць яму ў задніцу стралу каханьня да беларускага краявіду. Буржуй адразу выкідвае з галавы Монтэ-Карла, Гаіці і тайскіх масажыстак. Перад усімі спакусамі сьвету ён аддасьць перавагу жнівеньскаму вечару на Нарачы, калі гэтак файна назюзюкацца чарнілам і заваліць у клюб, каб паганяць штакетамі чужынцаў з суседняй вёскі. Хіба можна гэта параўнаць зь нейкімі пірамідамі.

Натуральна, ёсьць у нас і апанэнты пляну «турызацыі» краіны. На такіх ёсьць важкія аргумэнты – прыклад Гішпаніі. Галоўная крыніца бюджэту гэтай краіны – шэзлёнгі, парасоны-мухаморы, крэмы ад загару. Аднак вось 3 красавіка ў басконскіх газетах Gara і Egunkaria зьявілася камюніке тэрарыстычнай арганізацыі **ЭТА**. Сярод іншага, кіраўніцтва ЭТА паведамляе, што наведваньне турыстычных зонаў можа пашкодзіць вашаму здароўю. Пляжы і месца турыстычных тусовак ЭТА будзе разглядаць як мішэнь сваіх апэрацыяў. Тое, што баевікі ЭТА не жартуюць сьведчыць 1996 год, калі бомба, што выбухнула ў аэропорце Рэус, адным зь перавалачных турцэнтраў, параніўшы 35 аматараў бронзавай скуры. У ноч з 17 на 18 мая мінулага году ў турыстычным мястэчку Кадак (Каталонія) паліцыя ледзь пасьпела абясшкодзіць прыпаркаваны да бару аўтамабіль, начынены трацілам. Рэдакцыя Навінак заўсёды крытыкавала тэрарыстычную дзейнасьць (гл. №3, 2001). Аднак, паставім сябе на месца аднаго з 4500 нашых турыстаў, якія штогод праводзяць халідэй на пляжах Коста-Бравы або Канараў. Кожнаму сьвеціць атрымаць замест раўнамернага бронзавага загару кулю паміж лапаткамі.

«За што?» – лягічна будзе паўтараць у коме такі небарака. – «Я ж прынес вам інвэстыцыі? Я ж донар вашай эканомікі!» Чаму яго, далёкага ад гішпанскага палітычнага кантэксту, турыста не паважаюць басконскія незалежнікі?

Стаўка на турыстычную індустрыю – каюк для прамысловасьці рэгіёну, і яе самастойнага разьвіцьця. Як толькі ў краі зьяўляюцца орды турыстаў, гатовых набываць за любыя грошы саламяных уродцаў і даматканыя лапці-скараходы, мясцовая эканоміка хутка пачынае пераарыентацыю на іншаземнага спажыўца. Навошта варыць сталь і будаваць машыны, калі можна жыць з продажу паслугаў, бусаў, паштовак і люстэркаў іншаземцам. У пэрспэктыве, гэта робіць край цалкам залежным ад банальнага капрызу замежнага аматару экзотыкі. Вось вам яшчэ прыклад. Чэхія займае адно зь першых месцаў у хіт-парадзе сымпатыяў беларускіх турыстаў. І які ж тур па Чэхіі безь візыту на Старамесцкую плошчу! Калі будзеце там у наступны раз, менш слухайце байкі гіда, а паразмаўляйце зь беларусамі-палітэмігрантамі, якія зарабляюць на жыцьцё тым, што «ставяць палку» (жарг.: «палка» – рэклямны транспарант). Землякі вам раскажуць пра тое, пра што вы не прачытаеце ні ў адным з даведнікаў. Турыстычны цэнтар Прагі – гэта мёртвы горад. На Старамнесцкай няма ніводнага жылога дому. Людзей выгналі турысты, якім трэба было рабіць сувэнірныя фота на фоне фасадаў будынкаў 15 стагодзьдзя. Якое можа быць 15 стагодзьдзе, калі на балконе сушыцца кітайская бялізна, а на пад'езьдзе намалявана па-ангельску FUCK. Выйсьце – гнаць жыхароў нафіг. Турызм зьнішчае культуру, бо апошняя заўсёды функцыянальна. Напрыклад, тыя ж слуцкія паясы. Ніхто на Случчыне ня шыў іх як сувэнір. Гэта былі паясы – банальны сродак падпаясваць кажухі, калі ідзеш на поле раскідваць гной. Калі паясы ўвайшлі ў моду сярод калекцыянэраў, сялянак прымусілі іх вырабляць у канвэерны спосаб на продаж польскім турыстам. Гэтак паясы сталі экзотыкай і ня маюць аніякага дачыненьня да паўсядзённага побыту. Калі нейкі случак сёньня набудзе слуцкі пояс, зацягне ім куртку «пухавік» і выйдзе зь ім на галоўную ў Слуцку вул. Леніна, тамтэйшая гапата прызнае ў ім петуха і дасьць ядронай піды. Закончаным ідэалам турыстычнай ідэі зьяўляецца Мальёрка, якую зь сярэдзіны 50-ых аблюбавалі немцы. Усе надпісы на востраве на нямецкай мове, у крамах нямецкія прадукты, а той, хто ня шпрэхае па-нямецку, амаль ня мае шанцаў знайсьці нармалёвую працу. Калісьці сталіца вострава Пальма де Мальорка была проста Пальмай де Мальорка. Сёньня ж яна – міжземнаморская віла для немцаў, а мясцовыя жыхары – банальная абслуга, што выконвае ролю добрых «самабытных» абарыгенаў. Затое грошай у гарадзкім бюджэце сапраўды куры не клююць. Магчыма, беларусам, не абласканым натоўпамі амэрыканскіх ды японскіх аматараў экзотыкі, цяжка зразумець нянавісьць баскаў да турбізнэсу. Што ж, меньш разумееш, лепш адпачываеш. Нават калі наступны экзотык-тур у «сонечны вырай» будзе апошнім ●

**Хасэ Бланка**

# Шпіёнаманія

## або разборкі ў стылі Остына Паўэрса

Шпіёнскія раманы зноў у модзе ня толькі ў Менску, але і ў Маскве, і ў Вашынгтоне. Зноў потныя ад страху супрацоўнікі ЦРУ і ФБР трасуцца перад дэтэктарамі хлусьні; зноў хлопцы з Лубянкі сьціскаюць жалезнае кола вакол заходніх амбасадаў, павісаюць на хвасьце цээрушнікаў з дыпляматычнымі пашпартамі. Арышаваны за спробу абстрэлу амэрыканскай амбасады скульптар гэтак і не пабачыў свайго напарніка, і магчыма, што гэты наваяўлены Блюмкін з партызанскага атраду «Скіф імя Іоана Краншгацкага» ужо ўзводзіць недзе чарговы няспраўны гранатамёт. У запалёных мозгах вэтэранаў прагляду савецкіх фільмаў аб разьведчыках прадстаўляецца вобраз Робэрта Хасэна ў засьценках фэдэральнай турмы Нью-Ёрка. Разьмясьціўшыся на нарах, ён нягромка пяе: «Я ў вясеньнім лясу піў бярозавы сок».

Аднак, нават любы навічок у вобласьці шпіёнскай бэлетрыстыкі бязь цяжкасьці зможа здагадацца, што матывы супрацоўніцтва Хасэна з постсавецкай разьведкай больш празаічныя, чым каханьне да расейскіх бярозак, «ненагляднай чараўніцы» або нават чарадзея (гаворацы, гэтым былі грэшныя сябры «бірмінгемскай шасьцёркі»). Кім Філбі з таварышамі ўсё ж былі перш за ўсё фанатычнымі камуністамі. Праўда, ня гледзячы на ўсю сваю шпіёнскую падазронасьць, яны не падазравалі, што лад, пабудаваны ў СССР, нічога агульнага з сацыялізмам ня мае. Калі пасьля эвакуацыі ў савок яны пабачылі наша жыцьцё, то проста ня вынесьлі гэтага і падселі на стакан. Тым болей малаверагодна, каб сёньняшнія патэнцыяльныя агенты ФСБ асаджалі рэзыдэнтуру расейскай спэцслужбы пасьля прагляду фільму «Сібірскі цырульнік», прапіталіся сучаным расейскім нацыяналізмам у выглядзе масьленіц, кулачных боек і добрага цара. Такім чынам, мова можа йсьці толькі пра банальныя тавара-грашовыя адносіны, па-іншаму прадажнасьці.

Таксама не за вялікія ідэалы працуюць сёньня і калегі з ЦРУ і МІ-6. Хто зараз павядзецца на супрацоўніцтва ў імя ідэалаў трыюмфу свабоды і дэмакратыі, або сьвятой прыватнай уласнасьці. Усё гэта і так перамагло і стала сьвяшчэнным, і таму ў адпаведнасьці з законамі перамогшага капіталізму амэрыканскім шпіёнам прыходзіцца плаціць паўнавартаснай валютай. Увогуле ў тых, хто раней сядзеў у апараце заходніх спэцслужбаў і адказваў за «савецкі напрамак», у апошні час справы былі не бліскучыя. Прэміі, атрыманыя за развал СССР, даўно спушчаныя ў казіно Лас-Вэгаса, фінансаваньне сэктару, што замагаецца супраць не выходзячай з комы Расеі, паменшала.

У нейкім сэнсе выбраньне прэзыдэнтам рэспубліканца Буша-Джуніёра зьяўляецца рэваншам тых груповак, якія спэцыялізаваліся на барацьбе з савецкай пагозай, гэтак званае «савецкае лобі». Падобнае адбываецца і ў Расеі, дзе прыйшлі да ўлады «андропаўскія птушаняты».

У тым, што рытмы жыцьця ў разьведмонстраў абодвух дзяржаваў супадаюць, няма нічога дзіўнага. Яны жывуць па адных і тых жа законах. Адключэньне электраэнэргіі ў Каліфорніі і Прымор'і, парады па ваенным уміратварэньню Косава або Чачэніі. Новае раскручваньне супрацьстаяньня адзінай вялікай і экс-вялікай дзяржаваў дазваляе Маскве і Вашынгтоне заднім чыслом рэабілітаваць старонкі біяграфіяў абодвух прэзыдэнтаў, якія некаму маглі ўжо здавацца неадэкванымі новым рэаліям. Былому гэбэшніку Пуціну замест гулашна-энкавэдэшнага іміджу зараз малюецца вобраз сябра арганізацыі высакародных разьведчыкаў, якія стаялі на стражы інтарэсаў Расеі аж з часоў тайнай канцылярыі Бірона.

Для Буша-малодшага вяртаньне ў моду стылю «рэтра» дае магчымасьць зноў прымерыць касьцюмчык удзельніка крыжовага паходу на СССР, які перапаў яму ў спадчыну ад бацькі.



Савецкі агітпроп зрабіў памылку, калі не даваў нам слухаць тагачасных заходніх лідэраў у жывую. Нядаўна па НТВ паказвалі выступы Рэйгана. Старык Роні пераплюнуў усе стэрэатыпы савецкай прапаганды разам. На экране намаляваўся нейкі рэлігійны фанатык, які адмаўляў любое супрацоўніцтва зь бязбожнай імпэрыяй. Ён нават заляпіў, што лепей ягоная дачка загіне падчас ядзернай вайны, толькі б яна ня стала камуністычнай атэісткай. Усё гэта лірыка. Усе прапаведнікі - рэлігійныя або палітычныя – параць мозгі перш за ўсё каб разьвесьці лахоў на бабло. Гэтак, пошук яшчэ аднаго расейскага шпіёна дазволіў працягнуць работу цэлай камандзе сышчыкаў (400 чалавек) з амэрыканскіх спэцслужбаў. У цэлым палітыка кансэрватараў у США і самадзяржаўных кансэватараў у Расеі дазваляе падняць бюджэтныя ін'екцыі ў ВПК і сілавыя ведамствы. Узьнікае саюз капіталу, палітыкана і паліцэйскага. Яны могуць колькі заўгодна вылаўліваць у сябе шпіёнаў, аднак жадаючых легчы пад каго-небудзь за адпаведную суму будзе ня менш. Рабіць нешта за грошы – нармальны акт, прызнанай у нас усімі палітыкамі – ад камуністаў да манархістаў – рынкавай эканомікі ●

**Уладзімір Ваўпшасаў**

## ШпіЁнскія страСьці

### Як нас хацелі завэрбаваць.

Як гром сярод яснага неба ўсіх паразіла навіна: Міхал Плавец, чэскі журналіст і супрацоўнік арганізацыі «Чалавек у нядолі» быў дэпартаваны зь Беларусі за дзейнасьць, не сумяшчальную з законадаўствам Рэспублікі Беларусь. Аднак для нас гэта небыло дзівам. Супрацоўнікі рэдакцыі газэты *Навінкі* даўно зьвярнулі ўвагу на гэтага здаровага рудабародага дзяцюка, які тусаваўся на кожнай акцыі апазыцыі. Было адразу відаць, што рэзыдэнт Плавец дзейнічае прафэсійна, таму, уцершыся Міхалу ў давер, мы доўга назіралі за ягонай дзейнасьцю, намагаючыся быць у курсе ягоных справаў. Аднак праз пэўны час, Міхал вырашыў пачаць вэрбоўку і супрацоўнікаў *Навінак*. Ён дзейнічаў па ўсіх правілах жанру. Зьяўляючыся акурат падчас вёрсткі чарговага нумару агент чэскіх спэцслужбаў прыходзіў з трыма бутэлькамі гарэлкі наперавес, чым фактычна зрываў працу рэдакцыі. Разьлік шпіёна быў верным: ён намагаючыся спаіць супрацоўнікаў, каб выведаць у іх дзяржаўныя сакрэты. Аднак калі навінкаўцы даходзілі да кандыцыі ён у самы адказны момант адрубаўся і на раніцу ня мог прыгадаць ніводнага выведанага сакрэта. Немаведаме, колькі б паўтараліся візыты начнога госьця, каб ня зладжаныя дзеяньні беларускіх органаў бясьпекі, якія своечасова выкрылі агента крывавага Гавэла, а праца рэдакцыі ўступіла ў нармальнае русла.

**Зьяўляючыся сталымі чытачамі часопіса *Корея*, да апошняга часу мы пацелі ад зайдрасьці. У параўнаньні з шэдэўрамі паўночнакарэйскіх калегаў, беларуская журналістыка пужала сваім нэгатывізмам. Быццам няма ўжо вытворчых подзьвігаў, добрага і мудрага кіраўніцтва, шчасьлівых і верных працаўнікоў... Мы памыляліся! Як аказалася, Беларусь таксама мае сваіх «вялікіх правадыроў» і «любімых кіраўнікоў». Доказы? Пажалста!**

*Школе літаратурнага сацрэалізму прысьвячаецца*

# Полымя, барвовае на ветры

*«Быць сьветлым прамянём для іншых, самому выпраменьньваць сьвятло – вось вышэйшае шчасьце для чалавека, якога ён толькі зможа дасягнуць. Тады чалавек не баіцца ані пакутаў, ані гора, ані нястачы...»*

*Ф.Э.Дзяржынскі*

Вечар апусьціўся на горад. «Мэрсэдэс» жвава бег па дарозе, выхопліваючы зь цемры белымі купкамі сьвятла шэрую стужку асфальту, гнаны рэзкімі парывамі ветру, ішоў дождж, прамы, цяжкі як жалеза. Яго кроплі біліся аб ветравое шкло, драбніліся й касым пункцірам разьлілоўваліся. «Дворнікі» працавалі з усяе моцы, каб ачысьціць яго ад мутнай дажджавой плёнкі. Дырэктар філіялу СУ-25 ААТ «Мінскпрамбуд» У.А.Сяліцкі вяртаўся з уводнага аб'екту. Уладзімір Альбэртавіч задуменна глядзеў на дарогу і перабіраў у памяці падзеі мінулага дня.

Раскладваў як кажуць па палічках, аналізаваў, супастаўляў. Гэтая звычка выпрацавалася ў яго з гадамі. У кровельшчыкаў дырэктар бываў ужо ня раз. Вытворчае дасягненьне гэтага калектыву важкае. Але трэба замацаваць дасягнутыя рэзультаты, дабіцца таго, каб людзі атрымалі кватэры ў час. Вось і прыяжджаў сюды У.А.Сяліцкі. Паразмаўляў з рабочымі, пацікавіўся як ідуць справы на аб'екце. Будаўнікі шчыра падзяліліся думкамі, выказалі набалелыя пытаньні і пажаданьні. Уладзімір Альбэртавіч глыбока ўнікаў у сутнасьць праблемаў, тутжа прымаў дзелавыя рашэньні.

Як вядома будоўля патрабуе калектыўнай працы і яшчэ – калектыўнай адказнасьці. Але згадзіцеся, не заўсёды на будпляцоўцы ёсьць магчымасьць з ходу ліквідаваць недахопы. Таму дырэктар фіксаваў іх у свой нататнік, каб у далейшым выдаліць нэдачоты. А затым расказваў аб эканамічным становішчы ў нашай рэспубліцы, аб цяжкасьцях і складанасьцях уводнага аб'екту. Уладзімір Альбэртавіч гаварыў аргумэнтавана, дасьціпна. Ягоны выступ закрануў за жывое і спадабаўся людзям. Пасьля размовы яны абкружылі Сяліцкага шчыльным колам, і яму прыйшлося адказваць на шматлікія пытаньні...

...Дарога крута павярнула ўлева. За паваротам паявіліся агеньчыкі гораду Менску. Машына, быццам узрадаваная хуткім прыездам, яшчэ весялей пабегла па асфальце. На ўскрайку сталіцы, дзе ўзводзіліся новыя гмахі дамоў недалёка ад узбочыны, У.А.Сяліцкі ўбачыў некалькі дымных барвовых вогнішчаў, што палалі ўшэраг, блізка адзін да аднаго, хутка і ярасна. Разьдзмутае ветрам полымя, весела танчыла над зямлёй, высьвечваючы зь цемры бронзавыя твары рабочых.

Гледзячы на вогнішча, Уладзіміру Альбэртавічу прыгадаўся выступ выкладчыка палітэхнічнага інстытуту на адным з сэмінараў.

– Ці бачылі вы калі-небудзь вогнішча на ветры – спытаў у студэнтаў пэдагог. Прысутныя зьдзіўлена пераглянуліся. Прычым, маўляў, тут вогнішча. А выкладчык тым часам працягваў.

– Калі агонь слабы, амаль цепліцца, то вецер прыб'е яго да зямлі й пагасіць. Калі ж вогнішча разгарэлася, то вецер яго толькі ўзмоцніць. Гэтак і ў нас, будаўнікоў. Калі чалавек працуе абы як, то цяжкасьці могуць зламаць яго, і сапраўднага кіраўніка зь яго так і не атрымаецца. Таму ж, хто ўвесь запал свайго сэрца аддае любімай справе - любыя ліха й смутак ні па чым. Выпрабаваньні яго толькі загартоўваюць. Дык будзьце ж заўсёды такімі, як вогнішча на ветры. Гэта дапаможа пераадолець вам цяжкасьці нашага жыцьця. Не зьлічыць справаў, якімі штодзённа прыходзіцца займацца дырэктару, бо ўсякаму хто да яго зьвяртаецца, здаецца, што ў яго баліць больш за ўсіх і лекаваць павінен толькі ён, Сяліцкі і Уладзімір Альбэртавіч бярэцца часам не за сваю справу, заўважаючы, хто мог і чаму не зрабіў. І паўсюль намагаецца пасьпець, куды клічуць яго і дзе трэба пабываць бяз выкліку.

Умудраецца дырэктар выкраіць час на чытаньне мастацкай літаратуры, газэт, часопісаў.

Сям'я, адпачынак – часьцей за ўсё «паводле рэштквага прынцыпу». і Уладзімір Альбэртавіч ня скардзіцца, бо за гады працы на пасадзе дырэктара СУ-25 прызвычаіўся да ўсяго. Як кажуць, каб толькі агульная справа не цярпела, і людзі былі задаволеныя у настолькі цяжкі для нашай краіны час.

Словам, дырэктар філіялу СУ-25 ААТ «Мінскпрамбуд» Уладзімір Альбэртавіч Сяліцкі З асаблівай упартасьцю і настойлівасьцю сёньня працуе. Вобразна кажучы, ён нагадвае барвовае вогнішча на ветры, аб якім калісьці казаў на сэмінары выкладчык інстытуту.

**Валянцін Нікольскі,**
*На стройках Минска*, №7, 2001




**УВАГА!!!**
Ніжэй разьмешчаны тэкст прыведзены тут толькі як інфармацыйны факт!!! За дзеяньні, якія могуць мець месца ў выпадку выкарыстаньня прыведзенай інфармацыі і кваліфікуюцца Крымінальным кодэксам РБ як злачынствы, рэдакцыя адказнасьці не нясе!

Так Не



## Эвалюцыя супрацiву або "huck the sYstem"

У Беларусі апошнім часам затрымана 52 чалавекі за кампутарныя злачынствы. Пра гэта расьпісалася прэса. Нарэшце, на пераганкі крычала прэса, затрымалі гэтых гаўнюкоў. Героямі дня стала міліцыя, жорсткі дыск якой у сярэднім не перавышае памераў звычайнай дыскеты. Яны перамаглі(?). Яны такія разумныя :). Яны іх злавілі. Але ніхто й не гаворыць пра тое, што 99% гэтых герояў ніколі не даведаюцца, што такое Ctrl+Shift+Del і ў якім накірунку гэта знаходзіцца.

Крок за крокам, дзень па дню, эвалюцыя крочыць наперад. Быў час, і рабы дзеля свабоды забівалі каменьмі сваго пана, ішоў час, і ужо сяляне зьмяняюць рабоў, а каменьне зьмяняецца на вілы і вогнішча, якое весела скача па панскім палацы і гумне. Потым сумна крочыць пралетар, з ідэямі сындыкалісцкага кантроля, і вызваленьня ад буржуяў. Стачкі, забастоўкі, барыкады... Усё гэта дзеля свабоды. І тут раптам цывілізацыя адкрывае «Новую Амэрыку» – кібэрпрастору. Шчасьце, што гэтая прастора дасталася нам пустой і чыстай як адфарматаваны дыск. У адкрыцьці гэтай прасторы не было забойстваў абарыгенаў і вынішчэньня дзявочых прэрыяў. Інтэрнэт – гэта чацьвёртае вымярэньне, якога мы дагэтуль ня бачылі. Са зьяўленьнем новай прасторы сыстэма сутыкнулася з новымі праблемамі. Справа ў тым, што ўсе тыя ідыятычныя загады і нормы гублялі сваю актуальнасьць на тэрыторыі кібэрпрасторы. Прасторы бязь межаў.

Калі паглядзець на гэта ўсё з пункту гледжаньня эвалюцыі, то справа выглядае наступным чынам: ёсьць новая прастора і жаданьне сыстэмы падпарадкаваць яго сабе. Абвесьціць кібэрпрастору сваёй уласнасьцю, кантраляваць інфармацыю. Каб кантраляваць юзэраў, сыстэма спрабуе ўдалбіць у іх галовы свае закамплексаваныя правілы. Старыя правілы, якія ўжо даўно згубілі сваю сутнасьць і, самае галоўнае, зусім не пасуюць да геаграфічна-сацыяльна-культурнага ляншафту «Новай Амэрыкі». Згвалчаны сыстэмнымі нормамі, якія яму ўдалбілі зь дзяцінства, юзэр, атрымаўшы новую, непадобную да дзяржаўнай інфармацыю, патрапляе у яму. Ён ня можа зразумець, дзе праўда, а дзе п.дзёж.

І тут зьяўляецца «юзэр-узбунтаваны». Гэта ўжо ня той юзэр, які законапаслухмяна выконвае ўсе дырэктывы сыстэмы, гэта – свабодны чалавек. Называй яго як хочаш, хакер, кібэрпанк ці яшчэ неяк. Свабодны чалавек кібэрпрасторы – гэта чалавек, які не абмяжоўваецца полам, узростам, сацыяльным паходжаньнем і іншымі бздэтамі. «Мы існуем бяз колеру скуры, нацыянальнасьці, узросту... а ты называеш нас злачынцамі? Ты будуеш атамныя бомбы, пачынаеш войны, забіваеш, хлусіш і падманваеш нас. Спрабуеш рабіць усё, каб мы паверылі, што гэта для нашага дабра, і каб мы паверылі, што гэта менавіта мы злачынцы? Так, я злачынца. Маё злачынства – гэта цікавасьць. Маё злачынства – гэта тое, што я стаўлюся да людзей згодна з тым, што яны думаюць, а не як яны выглядаюць. Можаш затрымаць мяне, але не затрымаеш нас усіх», – гаворыцца ў слынным маніфэсьце хакера.

Хакінг – гэта культура выжываньня вольнага чалавека ў абставінах новай кібэрпрасторы. Гэта свабода чалавека ў мэханізаваным сьвеце. Кампутар – гэта толькі машына! Але з дапамогай яе ты можаш назаўжды зьмяніць сваё жыцьцё.

Юзэр – гэта пралетарый, на чыім гарбу едзе сыстэма. Хакер – гэта кібэрпралетарый, які ўжо набыў сваю сацыяльную самасьвядомасьць. Галоўная мэта кібэрпралетарыя – гэта дасягненьне свабоды інфармацыі. Інфармацыі, якая дазваляе яму свабодна выбіраць. Інфармацыі як права кожнага. Новая рэвалюцыйная барацьба – гэта барацьба за свабоду выражэньня сваіх думак, не баючыся перасьледаў сыстэмы. Дэзынфармацыя – галоўная зброя сыстэмы. Свабоднае распаўсюджаньне інфармацыі – гэта наш «адказ Чэмбэрлену».

Ведай! Ты можаш усё. Твае веды – гэта твой адказ сыстэме прыгнёту й капіталу. Кожны мае права выкарыстоўваць інфармацыю! Абмежаваньняў не існуе!!! Усё, што належыць нам, належыць і вам, і наадварот. Хакер – гэта не сэктанцтва, гэта актыўная жыцьцёвая пазыцыя. Адказ на гвалт сыстэмы сваім новым супрацівам. --->

:-)



## Чайнік!!! Ты гэТа можаш!

Напэўна кожны з вас глядзеў фільмы пра шпіёнаў, якія могуць усё. Скачуць з 12 паверха галавою ўніз і не забіваюцца, нават пад час аргазму сочаць за навінамі і прагнозам надвор'я, з дапамогай падручных сродкаў падрабляюць пячаткі...

Калі вас цікавяць першыя два трюкі, то зьвяртайцеся да Копэрфільда і Камасутры. У гэтай калёнцы сёньня мы раскажам вам як зрабіць пячатку.

1. Самае простае, гэта проста сасканаваць пячатку і вывесьці яе праз струйны прынтар. Але гэта па-першае ня зручна, а па-другое, ня вельмі якасна.
2. Самае складанае, але і самае якаснае, гэта рабіць пячаткі з дапамогай фотапалімэру. Так робяць прафэсійныя пячаткі. Калі некага зацікавіла гэта, то пішыце на каханую рэдакцыю.

Мы ж, апусьціўшы дзедаўскія мэтады з гатаваным яйкам і бульбай, пяройдзем да новага шпіёнскага мэтаду. Для, прадукцыі пячаткі табе спатрэбіцца:
– узор пячаткі
– налепка (памеры чым большыя, тым зручней)
– сканэр, прынтэр і сасуд з вадой
– ірыска (можа быць і «чупа-чупс», хаця мне асабіста, ён не да спадобы)

Сасканаваўшы пячатку, апрацуйце яе>>

>>ў "Фатажопе", каб яна мела добры кантраст. Потым вазьміце налепку, аддзярыце яе і наляпіце сабе на кампутар, паперку ж, якая засталася ў вашых руках, не выкідайце! Выведзіце на яе з дапамогай прынтэра пячатку. Пастаўце на прынтэры максымальную якасьць. Калі справа зробленая, прыйшоў час на ірыску. У ірыскі павінна быць плоскасьць, на якую можа зьмясьціцца пячатка. Добра калі карамелька паляжала некаторы час пры хатняй тэмпэратуры і стала ліпкай. Прыцісьніце карамельку да раздрукаванай пячаткі. Фарба павінна прыліпнуць і застацца на карамельцы. Тады вазьміце сасуд з вадой (вада мусіць быць хатняй тэмпэратуры) і апусьціце ірыску туды. Не балтайце ірыскай!!! Бо фарба адклеіцца. Калі вы зробіце ўсё правільна, ірыска вымыецца на 1 – 1,5 мілімэтры і ў вас атрымаецца пячатка. Гэты від пячаткі прыгодны на некалькі стэмплеў, потым туш пачынае разьядаць ірыску. Калі вы зрабілі пячатку і хочаце яе выкарыстаць пазьней, то яе лепш за ўсё захоўваць у халадзільніку. Калі зьявяцца нейкія пытаньні, пішыце на адрас рэдакцыі. Жадаю плёну.

Тата

**Ніхто не забыты, нішто не забыта**

**КЕВІН МІТНІК.**
Нарадзіўся ў 1964. Першы хак у 16 гадоў. Першая сутычка з законам у 17 гадоў, калі ў 1981 ён узламаў сыстэму Супрацьпаветранай Абароны ЗША. У 1987 Мітніка закрылі на 4 гады з 6 месяцамі прымусовага лячэньня ад кампутарнай залежнасьці. У 1990 адпусьцілі, забараніўшы карыстацца кампутарам. У 1994 ламае кампутар Цутому Шымуморы – вядучага спэцыяліста па кампутарнай бясьпецы ЗША. 15 лютага 1995 Мітнік быў затрыманы і абвінавачаны ў 23 махлярстве з дапамогай кампутару. Агульная сума тэрмінаў па ўсіх абвінавачаньнях складала 460 гадоў. Па прыгодах Мітніка ўжо напісана некалькі кніг, і нават зьняты фільм.

Готова Мой компьютер

# Футбол бязь межаў

## Пару словаў пра козыры ў прэзыдэнцкай гонцы

Нельга пазайздросьціць тым фанатам беларускай футбольнай зборнай, хто ліча сябе дэмакратам. Бліжэйшым часам бел-чырвона-белых тыфозі чакае амаль геераінавая ломка: у інтарэсах нацыі ім прыйдзецца жадаць сваёй камандзе паразы!

Пачнем з залепы Ніны Хрушчовай ў казяяткаўскай «Панараме»: «Краіна захварэла футболам, які дарэчы зьяўляецца любімым спортам Прэзыдэнта». «А як жа старая лукачэнскаўская грыжа – хакей?», – акругляцца вочы ў шараговых аматараў спорту, якія прывыклі бачыць бацьку з клюшкай-дрынам.

Прычыны дэвальвацыі любові Прэзыдэнта да лёду відавочная: толькі палітычны суіцыднік будзе падтрымліваць від спорту, які не дае дывідэндаў па аблігацыях у выглядзе мэдалёў і грамат. Хакей як кароль спорту ў РБ адкінуўся. Паводле законаў прыдворнага этыкету трэба крычаць “Няхай жыве кароль!” І ня важна, што за ўрода-інфанта рэгенты прапануюць на трон.

Напрыклад, у суседняй Польшчы ўсе палітыкі вучацца скакаць з трампліна, рызыкуючы зламаць сабе ногі, рукі і іншыя карысныя члены цела. Усё з-за Адама Малыша – паляка, чэмпіёна сьвету па скоках, які стаў народным кумірам. Таму калі б зараз наша зборная па сынхронным плаваньні ўзяла мэдаль, у кожным абласным цэнтры пачалі будаваць басэйн, а бацька дэфіляваў бы на публіцы ў гумовай плавальнай шапачцы. Аднак вызначыліся не плаўчыхі, а футбалісты, якія зрабілі зборную Нарвэгіі 2:1. Таму й бацьку стала зразумелым, што каб мець папулярнасьць у народзе, трэба набываць разэтку (фанацкі шалік) і абанэмэнт на стадыён «Дынама».

Сам мэханізм палітычнай раскруткі за кошт футболу (як і любога іншага віду спорту) просты як рэцэпт прыгатаваньня бульбы ў мундзірах. На курсах пі-ару такія заданьні лузгаюць як семкі. За кошт сродкаў СМІ ўзмацняем і падтрымліваем настрой, што сакрэт посьпехаў нашых футбалістаў – гаспадарчая апека Лукашкенка. Ён быццам падчас матчу сядзіць на трыбуне і як той Хатабыч вырывае з вусоў валаскі, калдуючы выйгрыш сваёй зборнай, а заадно і за паосьпех сваёй перадвыбарчай кампаніі.

Тое, што раскрутка за кошт спорту мае стопрацэнтровы посьпех, было неаднаразова праверана на практыцы. Напрыклад, тым жа **А.Шыкльгрубэрам**. Аднак, на канец 1920-ых футбол стаў у Нямеччыне самым масавым спортам. Натуральна, фюрэр стаў рэгулярна пачытываць тагачасны *Прессбол* з рацыянальных матываў: як выкарыстаць футбол дзеля палітычных мэтаў. Для нацыстаў праблемай было выдзяленьне фэрмэнту ляяльнасьці ў рабочай клясы. Сабралі піар-каманду і вырашылі раскручваць клюб «Шальке» з Гельзынкірхен. З 1933 па 1945 год бела-сінія (колеры Шальке) дванаццаць разоў запар выйгравалі рэгіянальны чэмпіянат і былі 6 разоў чэмпіёнамі Нямеччыны. Каб забясьпечыць перамогу «Шальке» ў чэмпіянаце 1942 году, з фронту былі выклікaныя былыя футбалісты клюбу, мабілізаваныя ў войска. Гітлераўцы дабіліся свайго: у вачах працоўных «Шальке» стаў сымбалем свойскасьці нацысцкага рэжыму. Акрамя таго, быў створаны клюб, які быў здольны супрацьстаяць у нямецкім чэмпіянаце вельмі моцным камандам з Аўстрыі, якая была анэксаваная ў 1938 годзе. Перамога венскіх клюбаў над нямецкімі ўздымала сярод аўстрыйцаў сэпаратысцкія настроі. Тады з гэтым было пакончана.

Цяпер уявіце, што будзе калі малафееўская зборная пераможа ў летняй сэрыі ў Ерэване і Осла. У стане эйфарыі нават хатнія гаспадарыні, якія ведаюць пра футбол, датэрмінова апусьцяць выбарчы бюлетэнь за лепшага сябра беларускіх фізкультурнікаў.

Ці здольныя мы не дапусціць, разьвіцця такога сцэнару падзеяў? Што ні рабі, усёроўна напярэдадні выбараў на экране зьявіцца Малафееў, і скажа, што без падтрымкі прэзыдэнта, Васілюк ня тое, што гол галяндцам, у попу слана з двух мэтраў не пападзе!




**А.Шыкльгрубэр** таксама спачатку не любіў футбол. Гульню ў мяч завезьлі ў Нямеччыну п’яная матрасьня з Англіі, а туманны Альбіён у той час ставіў рагаткі нямецкаму імпэрыялізму па ўсім сьвеце. Адольф паважаў гімнастыку, якая гістарычна была зьвязаная зь нямецкім нацыяналізмам (падчас напалеонаўскай акупацыі пад крышай гімнастычных сэкцыяў зьбіраліся нямецкія патрыёты).

Адзінае, што можа выратаваць беларускую апазыцыю, гэта фіяска нашай зборнай у чэрвеньскай сэрыі сустрэч супраць Арменіі і Нарвэгіі. Па магчымасьці патрэбны як мага ганебны пройгрыйш. Зь лікам, скажам, 0:5 або 0:31. Што можа здарыцца далей, ілюструе эпізод 1998 году. У самы разгар перадвыбарчай кампаніі ў бундэстаг зборная Нямеччыны пад кіраўніцтвам Бэці Фогса зьліла на чэмпіянаце сьвету харватам – 0:3!. Паколькі Фогс лічыўся корышам канцлера Коля, крайнім зрабілі палітыка. Як вынік – колеўскі Хрысьціянска-Дэмакратычны Саюз абкакаўся, а апазыцыя трыюмфальна перамагла.

Вось яна, вакцына на каляспартыўныя махінацыі прэзыдэнта. Наша заданьне забясьпечыць малафееўскай экіпе поўны крындзец. Для гэтага не памешае салідная псыхалягічная падтрымка армянам у выглядзе кагала тыфозі.

Зубры і маладафронтаўцы, усім каму не абыякавы лес краіны! Усе сустракаемся ў Ерэване на стадыёне Раздан у сэктары армянскіх фанатаў? Спадары Северынцанян і Вячорканяні не забудзьце раздаць дудкі, барабаны і дымавыя шашкі. Вучыце куплеты.“Оле-оле-оле. Арменія вышэй за ўсё!”. Калі ж, нашыя дэмакраты ня выставяць у Ерэване сваю праармянскую тарсыду, то зь імі ўсе зразумела. Як сказаў бы цыклоп палітычнага маркецінгу Падаляк: «У бірюлькі ім гуляць, а ня прэзыдэнта абіраць» ●

**Юрый Гоцманаў**

# Прыгадайма...

Арганізацыя дысцыплінаванага «досуга» заўсёды была любімым заняткам камсамольскіх зацейнікаў былой савецкай імпэрыі. Тут таксама як і ўва ўсіх іншых сфэрах заідэалягізаванага быцьця перасьледаваўся просты маніхейскі прынцып: прапагандаваць сваё і добрае ды не пушчаць чужое і дрэннае. Мы зможам лепш ацаніць маштабы пераацэнкі каштоўнасьцяў, якія адбыліся за апошнія дзесяцігодзьдзі, калі прыгадаем, на чым асноўвалі сваё эстэтычнае пачуцьцё музычныя крытыкі 80-х.

Вось што, напрыклад пісаў у 1985 годзе Дзьмітрый Падбярэскі, тэле-, радыё- і інш. журналіст, знаўца сучаснай музыкі, аўтар кнігі «Чынгісхан для Саксафона» і г.д.: *«пропагандировать следует только всё самое лучшее, но нельзя сбрасывать со счетов и фактор актуальности того, что мы собираемся предложить слушателю»*[1]. Зразумела, ідэалягічны орган *Знамя Юности* быў своеасаблівым рытуалам, такім самым, як пытаньне *утверждалась ли данная программа органами культуры*[2], вольны эстэтычны парыў патрабаваў пэўнай санкцыі вышэйшых аўтарытэтаў. 1984 год – гэта пэрыяд піку канфрантацыі двух супярэчных ідэалягічных тэхналёгіяў, адна зь якіх была больш, а другая менш эфэктыўнай: колькі ідалаў сходзіць *с западного поп-конвейера в год? Один, два, больше? Вереницей проходят они перед поп-потребителем, группами и по одному. Люди-маски, в которых вложена гротескная форма, а не содержание. Для того, чтобы стать кумиром, не обязательно быть талантливым, можно иметь средние способности, но обязательно обладать чем-то таким, что противоречит общепринятой морали*. Безумоўна, наладзіць сэрыйны выпуск ідалаў, ды яшчэ такіх, каб падабаліся аўдыторыі сыстэма была проста ня ў стане фізычна, таксама, як не магла ў 1984 годзе жлобінская фабрыка наладзіць выпуск джынсавых нагавіцаў. Дазволіць на якое заўгодна парушэньне рытуалу сыстэма таксама не магла. Заставалася гуляць у ідэалягічную гульню анафемстваваньня недаступнага, таму і табуізаванага чужога дзеля захаваньня спархнелага свайго: *Поп-культура является важным средством классовой борьбы буржуазии. Именно с этой целью и создаются фетиши поп-богов. Покупая и сбывая их оптом, в розницу и в рассрочку массовому потребителю, буржуазия внушает ему, что эти идолы являются олицетворением «классового бунта» (им не нравится термин «классовая борьба»). И нет необходимости выражать социальный протест каким-либо иным способом*[3]. Вось так, ня маючы магчымасьці ствараць канкурэнтаздольны культурны прадукт, канцэрн-гігант з trade mark «СССР» набіваў кошт свайму тавару, націскаючы на недаступныя недасьвечанаму спажыўцу якасьці тавару, тое, чаго прафану нельга ўхапіць пры дапамозе зроку, слуху і іншых звыяайных пачуцьцяў, так, дарэчы зараз дзейнічаюць дыстрыб’ютары гаршкоў Zepter і травы Gerbalife: *самое больное место – репертуар предлагаемых любителям музыки исполнителей, особенно тех, что предназначены молодёжной аудитории*[4] г.зн. над формай дамінуе высокі і духоўны зьмест, што часам даходзіла да абсурдных наступстваў. У сваіх ідэалягічных праціўнікаў заўважалася форма перадусім, часта ўжываліся фрагмэнты крытычных артыкулаў запазычаных з замежных выданьняў, павінныя надаць аўтарытэт палымяным сэнтэнцыям эдэмскіх праведнікаў, абрушваючым абвінавачваньні ў бок заходняга Садому: *«если собрать членов всех этих групп, то это будет сборище вампиров, каторжников в кандалах, пиратов и бродяг» — пишет американский журнал «Ньюсуик». Бизнес от культуры поддерживает эти музыкально-зрелищные извращения, так как они помогают отвлечь молодёжь от социальных проблем и противоречий в мире капитала, подавляют её, заставляют забыться*[5]. Сваім «недастаткова ідэйным» музычным калектывам таксама даставалася за недастатковую прававерпасць — вось што пісаў Юры Цыбін, цяпер бальшы чалавек шоў-бізнэсу пра папсовы гурт «Синяя птица» ў 1984 годзе: *«Синяя птица» процветает по-прежнему, выстреливая всё новые и новые песни-однодневки. Что поделать, если песни (о любви всё-таки) нравятся подростку, которого ещё предстоит научить различать, где искусство, а где тот самый пресловутый «кич» от искусства?*[6] Нешта зараз ніхто не крытыкуе напрыклад, Зэмфіру, за тое, што яна не заклікае да клясавай барацьбы. Дзе цяпер ваша клясавае пачуцьцё, гаспадзін Цыбін? І хто цяпер растлумачыць няшчасным панкам, што дрэнна пастрыжаныя і калярова пафарбаваныя валасы – гэта «кіч»? Відавочна, што акула «шоў-бізнэсу» праглынула і змагароў за «настаяшчае іскуства», цану якому дыктуе вольны рынак, а ня санкцыя інструктара камітэту камсамолу. Між тым, шкада, што зьнік прысмак «забароненага плоду» — калісьці слухаць недазволенае цэнзурай было нашмат цікавей, у чым было шмат заслугі крытыкаў Ю. Цыбіна, Д. Падбярэскага і рубрыкі «Фанограф» газэты *Знамя Юности* ●



**Павал Карчагін**

[1] *Д. Подберезский, Знамя Юности: 17.01.85. Какой быть эстраде? Приглашение к разговору.*
[2] *тамсама*
[3] *О. Шахназаров, Знамя Юности. 1985*
[4] *Знамя Юности. 10.12.1985*
[5] *Н. Позняков, Знамя Юности. 18.05.1984*
[6] *Ю.Цыбин, Знамя Юности. 16.08 1984*

# Шоў-шантаж

## Новыя мэтады працы БМА-груп абяцаюць далейшы посьпех гэтай канторы




Новы CD г.зв. «вольных танцаў» наўрад ці альтэрнатыўнейшы за папярэдні

Позна ўвечары ў рэдакцыі *Навінак* раздаўся званок. Хрыплы голас БМАшнага боса Віталя Супрановіча каротка паведаміў навіны.

– Так, ляха. Я паставіў на новым выпуску нашага дыску ваш лягатып. Калі ў панядзелак ня выйдзе нумар з маім інтэрвію... раю не гуляць з агнём. Празь пяць хвілінаў я ў вас буду.

Хутка на офісе *Навінак* тэрмінова прыладжваўся дыктафон ля крэсла, у якім пад наглядам двух гарылахоўнікаў вальготна разьмясьціўся шэры кардынал беларускага шоў-бізнэсу.

– На правільныя пытаньні ў вас ёсьць трыццаць хвілінаў. І ні сэкундай болей.

**– Каму патрэбны ваш новы дыск?**

-Наш новы дыск «Альтэрнатыва_by» патрэбны ўсім. Проста ніхто пра гэта яшчэ ня ведае. Мы даводзім публіцы, што зьяўляецца сапраўднай альтэрнатывай. На нашу думку, у гэтым сэзоне будзе папулярны электронны музон і тэхна-рэміксы NRM. Калі нашая новая альтэрнатыва не прадасца накладам менш за 50 000 асобнікаў, пацалуйце мяне ў задніцу.

**– Як наконт сапраўднай альтэрнатывы – радыкальнага краст-панку, некамэрцыйнага хард-кору?..**

– Гэта вельмі ўдалая ідэя. Час заняцца і ёй. Я думаю, наступным выпускам мы ахопім менавіта гэты спэктар андэграўнду – прынцыпова некамэрцыйнай музыкі. Вядома ж зборка выйдзе пад лягатыпам «Вольныя Танцы». І калі яна не прадасца накладам больш за 100 тысяч, пацалуйце мяне ў задніцу. Яшчэ пытаньні?

**– Пра вас ходзіць шмат мітаў. Тыпу, вы купілі трэцюю кватэру ў Серабранцы...**

– Наглая хлусьня! Я ўжо пяць год жыву на праспэкце Машэрава. Час ад часу начую на Пуліхава.

**– Ваш новы друкаваны праект – музычны часопіс *POST'R* – вельмі нагадвае спробу спарадыраваць газэту *Навінак*. Але, шчыра кажучы, спроба няўдалая. Гаўно гаўном!**

– Я думаю, мы адмовімся ад далейшай распрацоўкі гэтага правальнага праекту. Прасьцей узяць ужо гатовы прадукт і прыбраць яго пад свае рукі. Газэта *Навінкі* – удалае, добра раскручанае выданьне, і я думаю, што менавіта на ім мы спынім свой выбар. Далейшае – справа тэхнікі і грошай. Хутка ў вас будзе новы лягатып, Кшталту, «Вольныя танцы: Навінкі_by». Не катайцеся на крэсьле, ён нам яшчэ спатрэбіцца.

**– І каротка пра вашыя бліжэйшыя канцэртныя пляны.**

– Канцэрт чэхаў у «Рэактары» 23-га красавіка, канцэрт супраць плястыку ў Чалюскінцах 19-га... І толькі паспрабуй, падла, не напісаць. А ўвогуле экалёгія і чэскі рок – новыя і цікавыя для нас накірункі дзейнасьці. Канешне, калі б ня бабкі, фіг бы мы за іх ўзяліся.

**– Чаму на вашых прэс-канфэрэнцыях ужо другі месяц запар не адбываецца банкетаў? Народ абураецца...**

– Не хер мне рабіць, як вас паіць на халяву! Я чалавек небагаты.

На гэтым размова красамоўна скончылася. Супэр паглядзеў на гадзіньнік і адваліў. На разьвітаньне ён ацэньваючым посьпехам акінуў памяшканьне і маёмасьць рэдакцыі. «Да наступнага візыту бутэлькі – здаць. Грошы мне пад распіску» – прагучалі першыя каштоўныя указаньні●

Гутарыў **Глеб Гэбэльман**

# Булава Гетмана

## (інтэрактыўная аповесьць)

*Кароткі зьмест папярэдніх частак. (Пачатак аповесьці глядзі ў №3-5, 2001) 1600 год ад нараджэньня Хрыстова. Падчас сяброўскага візыту ў ВКЛ у запароскага гетмана Галапупенкі пры загадкавых абставінах зьнікае булава – сымбаль вярхоўнай улады. Копны судзьдзя ў адстаўцы Андрэй Ст'анкевіч і яго сябар, палкоўнік Сьліва бяруцца знайсьці зьніклы рарытэт...*

**XMII.**

У промнях заходзячага сонца Новавіленскі тракт выглядаў зусім як Старавіленскі. Як там, так і тут з абодвух бакоў шлях чорнай сьцяной ахінала пушча. У ровах уздоўж шляху храпцелі няўдачлівыя падарожнікі, перабраўшы гарэлкі ў карчме. іх кішэні былі вывернутыя больш цьвярозымі сабутэльнікамі, а вушы і насы паадкусвалі зграі галодных валацужных сабак. Нібы д'ябальскі маятнік раскачваўся на дубе ля дарогі павешаны месяц таму вядомы злодзей-жартаўнік па мянушцы Хрэнз-гарчыцай. Апошні жарт злачынцы заключаўся ў тым, што ён абрабаваў мясцовы касьцёл езуітаў і пры гэтым згвалтаваў на алтары шасьцідзесяцігадовага ксяндза.

Па такой вось благаслявеннай дарозе ў паўночна-ўсходнім напрамку насустрач цемры рухаліся дзьве постаці вершнікаў. Так, вядома ж, гэта былі нашыя старыя знаёмыя. Яны ня ведалі, што зь ляснога гушчару за імі ўжо працяглы час сочыць пара чырвоных інфэрнальных вачэй.

– І ўсё ж, дзядзька, я не разумею, куды і па якое ліха мы прэмся, – парушыў цішыню палкоўнік Сьліва.

– Едзем мы да Вільні, дзе я хачу высьветліць адзін цікавы факт. А ты нічога не разумееш, бо маеш мала інфармацыі. Важнейшай асаблівасьцю сучаснага дыскурсу зьяўляецца інфармацыйная дасьведчанасьць. Той, хто мае інфармацыю, той мае ўладу над сусьветам. Каб быць больш дасьведчаным, пачытай вось гэтую паперу, якую я знайшоў у руцэ загінуўшага казака,– і пан Ст'анкевіч выцягнуў з кішэні і працягнуў палкоўніку зжаўцелы аркуш пэргамэнту.

– Можа ты, Андрэйка, мне сам пачытаеш, бо я свае акуляры дома пакінуў, – сарамліва апусьціўшы вочы вымавіў мужны палкоўнік.

– Ну, добра, тады слухай: «...А пра продка нашага Станіслава Казіміра Сьліву паміж людзьмі ходзіць паданьне жахлівае ды богапраціўнае... За часам княжаньня Альгерда Сьвідрыгайлавіча пан Станіслаў Казімір Сьліва быў прызначаны ваяводай Жабкавіцкім. Да таго жыў ён доўгі час у Грэцкай зямлі, меў шмат кніг на грэцкай і лацінскай мове і лічыўся паміж сялянаў чарадзеем. Зь ягоным прыездам у Жабкавіцкім замку пачалі адбывацца дзіўныя рэчы: людзі бачылі ўначы ў вокнах замку пякельнае полымя і чулі дзікія завываньні. Прывёз з сабой пан ваявода прыгажуню дачку Ядзьвісю, а жонкі ў яго не было, бо яна родамі памерла. Быў пан ваявода валюнтарыст вялікі і жорсткі гаспадар як над людзішкамі сваймі, так і над дачкой. Прасілі Ядзьвігу ў жонкі і паны шляхетныя заможныя, і рыцары адважныя выкшталцоныя, а толькі пан Станіслаў сваёй бацькоўскай згоды не даваў. Таго ж часу зьявіўся ў Жабках чалавек вандроўны з Масквы па празваньні Фэрапонт. Гадамі быў малады, тварам сьветлы ды розумам моцны. Меў той Фэрапонт крыж залаты з мошчамі сьвентымі, чудадзейны супраць д'ябальскай сілы. І вялікія прамовы Фэрапонт казаў, каб людзі рускай веры трымаліся, і прамовы яго ў людзей пранікалі. Так і пана Ядзьвіга слухала таго Фэрапонта і пакахала яго. А пакахаўшы, змовілася зь ім, і на сьвятым тыдні у аўторак Фэрапонт зьбег зь Ядзьвігай да Масквы...»

**Заданьні чытачам:**

**Хлопчыкі** і дзяўчынкі, спытайце ў саёй бабулі, можа яна ведае якое-небудзь жудаснае старадаўняе паданьне з чалавечымі ахвярамі. Запішыце бабуліна паданьне і дашліце на адрас рэдакцыі з паметкай на канвэрце "Булава гетмана".

4

## БМА-group

П Р Э З Э Н Т У Е

19 КРАСАВІКА – У ПАРК-КЛЮБЕ «МЕНСК» (ПАРК ЧАЛЮСКІНЦАЎ) ПРОЙДЗЕ СУМЕСНАЯ МУЗЫЧНА-ЭКАЛЯГІЧНАЯ АКЦЫЯ **БМА** І **«NEXT STOP – NEW LIFE»** «МУЗЫКІ ЗА ЭКАЛЁГІЮ. МЯНЯЕМ ПЛЯСТЫКІ НА ЗДАРОЎЕ» З УДЗЕЛАМ ГУРТОЎ **НОВАЕ НЕБА, ЗЬНІЧ, PS, АЩТАНОМІЯ** (МАЛАДЗЕЧНА), **МЛЫН** І ІНШ. ТАКСАМА ПРОЙДЗЕ ДРУГАЯ ЧАСТКА ПРЭЗЭНТАЦЫІ ДЫСКУ «ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: АЛЬТЭРНАТЫВА_BY». ПАЧАТАК А $18^{00}$.

23 КРАСАВІКА – У КЛЮБЕ «РЭАКТАР» ПРОЙДЗЕ КАНЦЭРТ «ЧЭСКАЯ МУЗЫКА НА ШЛЯХУ» З УДЗЕЛАМ ГУРТОЎ **UŽ JSME DOMA, ECHT!, MCH BAND** (ЧЭХІЯ) І **БЕЗЬ БІЛЕТА** (БЕЛАРУСЬ). ПАЧАТАК А $18^{00}$.

## КанцЭрты

### Пасхальны рамштайн

У «А-Клюбе», куды нефармальная маладзёж прыходзіць пакалбасіцца пад громкі шум, які аддалена нагадвае музыку іх любімых каманд, новаўвядзеньне. Нібыта бялізна, што разьвешанае сушыцца на ветры, танцпол быў распаласаваны цэлафанавымі палотнамі. Зробленыя ў іх адтуліны давалі шматлікім жадаючым магчымасьць, у залежнасьці ад узроўню разьмяшчэньня, рабіць у гэтыя адтуліны «ку-ку» або «пі-пі». Высьветліць якое-небудзь практычнае прызначэньне цэлафану, роўна як і тэматычную прыўрочанасьць дарк-індастрыял-вечарыны «Rammstein aus Minsk» да Вялікадня не ўдалося, але супадзеньне забаўнае.

Замест заяўленага ў афішы ў якасьці жывога бэнда PSYCHOZ'а рубіліся віцябляне – вельмі сучасны брутальны корн-кор, што называецца з трох літараў, «якія ніяк не расшыфроўваюцца».

Асьвятляльнік забаўляўся ў рэжыме «сьмерць эпілептыку».

Пра клюбныя апарат і гук да таго, што звычайна гавораць пра «А-Клюб» музыкі, меўшыя шчасьце там выступаць, дадаць няма чаго. Нават калі да гукаапэратара прыселі на калені дзьве бабішчы, справа не пайшла лепей.

Ну і, вядома, завалодаў усеагульнай увагай гурт ВСЁ МОЁ, нэасатаністы з добра пастаўленым шоў і жорсткім графікам рэпэтыцыяў, дысцыплінаваныя, пунктуальныя, працаваць зь імі – адно задавальненьне для арт-мэнэджэраў. А патрабаваць ад такой відовішчнай банды яшчэ й геніяльных тэкстаў – ужо перабор.

Уразіла грымёрка. За дзьвярыма з надпісам «Чыл-аут» – пэнал, у ім тры столікі і бар. Менавіта тут музыкам прапануецца спраўляць свае перадканцэртна-пераваплашчальныя патрэбы. Усе іншыя, каму ня лень, могуць на гэта пяліцца. Або ў відзюшнік з славутым RAMMSTEIN'ам, каратаючы час да ранішняга тралейбусу і намагаючы спасьцігнуць, у чым жа сакрэт рамштайнаўскай прыцягальнасьці для беларусаў.

**Начны Клубень**

# Жарты манархаў

## Піцерскія гастралёры пісьцілі публіку

Па-за славутай крэпасьцю ды кантрабандыстамі Берасьце вядомае старажытнай рэзыдэнцыяй каралёў розных краінаў. Якіх толькі манархаў тут не было, пачынаючы ад прадстаўнікоў швэдзкай дынастыі Ваза да расейскіх Раманавых. Відаць, менавіта таму вядомы піцерскі гурт КОРОЛЬ И ШУТ вырашылі прымазацца да славы імпэратараў і нанесьці гастроль у горад над Бугам. Вялі яны сябе адпаведна чыну, як дэспаты і тыраны.

Перш за ўсё знатныя госьці прывезьлі з сабой цэлую сьвіту - фаварытаў абоіх палоў, лакеяў-фанаў і віначэпрыяў-сабутыльнікаў. Адразу высьветлілася, што за апошнія гады мясцовыя халопы распусьціліся. Звычайныя сьмерды-панкі і халопы прызвычаіліся да таго, што ў берасьцейскі Палац Прафсаюзаў, дзе праходзяць канцэрты, пускаюць усіх. Калі ў цябе няма квітка на саму містэрыю (яна адбываецца на першым паверсе), то табе не забараняецца пайсьці ў шынок на другім паверсе. Там за келіхам брагі можна слухаць музыку з залі. КОРОЛЬ И ШУТ паклаў канец халопскай вольніцы. На гэты раз на ўваходзе ў Палац чэрнь сустракалі каралеўскія еўнухі, апранутыя ў чорнае. Калі нейкі падлетак хацеў прабрацца ўнутр без квітка, каб хаяця б паслухаць Каралёў, адразу атрымліваў каваным апрычніцкім ботам па храпе. Увесь уваход быў запырсканы крывёй. Дзякуй богу, што каралеўскія гвардзейцы яшчэ не пусьцілі ў ход свае булавы з электрапрывадам. Гэты вечар запомніцца мясцовым панкам назаўсёды. Цяпер берасьцейскія плебеі будуць ведаць, як трэба аддваць гонар Яго вялікасьці і яго блазнам.

Ведай сваё месца, пан(каў)скае быдла!●

**Юрась Шлюпакоў**

## ДОшка аб Яваў

18 - 20 траўня недалёка ад Менску плянуецца правядзеньне шырокай **экалягічнай канфэрэнцыі**. Жадаючыя прыняць удзел паведаміце пра гэта арганізатарам па тэл.: 242-62-33 (спытаць Максіма ці Элу).

Тры спадарычны шукаюць настаўніка айкідо. Тэл.257-42-71, Аля.

Газэта «Навінкі» прымае ў падарунак старыя часопісы. Будзем вельмі ўдзячныя. Рэдакцыя.

SOS! Дапамажыце добраму хлопцу, алдоваму рокеру Сашы Кулінковічу!
У сераду 18-га ў яго адбудзецца канцэрт, пра які ніхто ні хера ня ведае. Месца дзеяньня «4 апэльсіны», пачатак 19:00 НЕЙРО ДЮБЕЛЬ будзе РАЗАГРАВАЦЬ(!) маладых пацаноў (ЙО-ЙО, КОРМ ДЛЯ РЫБОК, САМ ПРОЦЕСС). Распавядзі пра канцэрт сябрам ды прывальвай сам!

Відэафільмы па-беларуску: «Матрыца» і інш. Раім наведаць сайт belvidea.cjd.net. І яшчэ...



# Маманты на балоце

## Рэпартаж з ачэрэднога фесьціваля аткравенна авангарднай моды





Фесьціваль авангарднай і альтырнаціўнай маладзёжнай моды «Мамант» – праект даляко нацэлены і вымірацъ не намераны, рашчытаны на 32 года как мінімум. Ва ўсякам случаі, судзя па паліціке пяці прэдшэстваваўшых «Мамантаў», гдзе для намінацый бралі буквы па парадку с начала алфавіта: на первам усё была на «а», на ўтаром – на «бэ» і т. д... А вот чэм так на шастой год не ўгадзіла буква «е», што чэраз яё рашылі перэскачыць на «ё»? Інцярэсна, у сьледушчым гаду так жа незаслужана прапусьцят «ж»? Савяршэнна зра. Такое поле для фантазій! Хаця бы па аналогіі с нынешнімі намінацыямі конкурсной праграмы:
Ёлкі-палкі (флора) – жопа-апяльсін;
ЁКЛМН (рэтрасьпекціва моды XX века) – жопа на калёсах;
Ё-мае (гратэск, альтырнаціўная мода) – жопа с ручкай...
Упрочым, эта цема скарэй усяго ўжэ расьпісана безь міня надолга ўпярод, і слоган «раньшэ чэм што-та была, нічаго не была» у даннам случаі не актуален. Яшчо более самніцельна празвучаў дэявіз мерапрыяція, аб'яўлены вядушчай перад гала-паказам: «Беднае ваабражэніе хужэ беднай жызьні». Канешна, у нашы дні ўсе стараюцца прыбядніцца, но штоб хто так ахаіваў сопственны ўнутраны мір, я ні разу ня слышаў.
Зал пітацельна-развлякацельнага комплекса «Журавінка» быў напалавіну запоўнен/напалавіну пуст, у завісімасьці ат індзівідуальных асобеннасьцей васпрыяція і злобнасьці суждзеній. Ачэвідна, у склоннасьці к пасьледняму западозрылі міня, патаму шта *Навінкам* пры двух папытках акрэдзітацыі была кацегарычэскі адказана. Праўда, патом прадставіцель арт-дзірэкцыі (ўраждзённая дзелікатнасьць не пазваляет мне азвучыць яго імя) доўга вазмушчаўся, пачыму я на акрэдзітацыю і прэс-канфярэнцыю не явіўся: «Я вас впярвыя віжу!» (чылавек яўна агранічэнны, кагда пасьледні раз у комікс заглядываў?). У апраўданіе яму можна толька упамянуць, што разгавор вёўся перваrа апрэля. А ў прынцыпе, какія для фотамадэлі газэты *Навінкі* могут быць праблемы с пранікнавеніем у любое мажорнае завядзеніе? Для чаго ж тагда вязьдзе дзержут знойных сяк'юрыцей, наіўных, как младзенцы? Сьніскаць іх распалажэніе – дзела пяці мінут.
А дзейства была давольна абычнае, то есьць усё, што нікак не завісела ат арганізатараў, была очэнь красіва, а астальное – дорага. Тварцы блісталі, эксплуататары ўзіралі і чуўствавалі сібя благадзецелямі.
Авангард абазначыўся чэраз традзіцыонныя пространственна-геаметрычаскія канструкцыі, а такжа падручнымі мацір'яламі для ізгатаўленія мадэлей. Шоў мястамі была вясьма эфектным. Адзін із гасьцей ат аб'едзінения «Молдова Фэшан» (так на афішэ была напісана, на саўрыменнам рускам «fashion» будзет фэшан?), Анатолій Краўчанка, прадстаўляў сваю калекцыю пад звукі MINISTRY. Патом аўтар паказаўся сам, я выцянуў шэю штоб разглядзець этага героя і доўга ня верыў сваім глазам: салідны, унушыцельнай камплекцыі мужык, ня меньшэ пяцідзесяці гадоў old...
Слаўны горад Віцебск, калыбель Мрака Шагала (роўна как і «Славянскага Пазора»), атлічыўся гвазьдзямі і маленькімі дзевачкамі-манікеньшчыцамі. Аднака наляцеўшыя как коршуны крэпкія парні падхвацілі дзяцей с подзіума і ўнясьлі ў неізьвеснам напраўленіі – ніхто і ахнуць не ўсьпеў...
Очэнь многа цёплых слоў наперэбой гаварылі ў адрас друг друга спонсары і ўчрэдзіцелі, каторыя рэбят «кармілі, паілі, начавалі». Не абідзілі і прызамі: адарылі каждага лаўрэата галубым/розавым плюшавым сланом, уцюгом (на шэю), плоскім цьвятком стрэліцыяй і дзіпломам. Канцэптуалы-мальчыкі с калекцыяй «Рукамі ня трогаць» разжылісь відзюшнікам. «Група дабражэлацелей» (то есьць журы) сачла іх тварэніе «імеюшчым бальшой узгляд у будушчэе» і прысудзіла Гран-Пры.
Весь гала-паказ улажылі прымерна ў часпаўтара, посьле чаго подзіум мгнавенна расташчылі, на экраны пусьцілі бяззвучную папсу, на сцэну – «Дзіліжанс», сьпекулянты прадолжылі спакойна пераварываць корм і бяседаваць, а я паскакаў дамой, патаму шта мяня дасталі каравыя мужыкі ў блясьцяшчых рубашках. Целяфон ім дай, а самі бульбы міску заказаць ня могут. Рахіты. («Вы што, калекі?» – «Не, мы беларусы»). Чуць не іспаганілі вазвышаннае састаяніе душы, дасьцігнутае ў ходзе сазярцанія прэкраснага ●

**Шалава Зайцаў,**
фэшан-шоў-абасравацель



### Шыйце самі




**Касьцюм мадэлі складае 3 рэчы: шапачка-«гандон», ліф і паўспадніца-топ. Шапачка-«гандон» вяжацца разінкай (ліцавымі петлямі зь ліцавога і адваротнай бакоў, памер: даўжыня раду 25 см, даўжыня палатна – 50 см). Потым палатно сшываецца ў шапачку. Ліф і паўспадніца-топ рабяцца па адной схеме. Для работы вам патрабуецца некалькі кг старых дробнанарваных газэт і памочнік, які будзе рабіць з вас пап'е-машэ. Ляжце на падлогу, папярэдне памазаўшы грудзі, жывот і бёдры крэмам. Потым памочнік, абмакваючы кавалачкі газэты ў ваду накладвае іх на вас па пункцірных лініях у 5-6 слаёў, калі папера падсохла, здымаеце яе зь сябе й падфарбоўваеце бікіні ў патрэбны колер.**

## Ліст у рэдакцыю:

# «ФРЭСКі» а сланах

## *ілі 10 фактаў, каторые маглі бы удзівіць Шырлі.*

Немудрено, что музыкальному крітіку, воспітанному на песнях Егора Летова і группы «Гражданская оборона», «Фрескі» моглі показаться блеклымі. І все же спасібо Шірлі, что помянула его в своіх *Навінках*. К напісанному добавлю ешче несколько деталей.
1. Нікакіх спонсоров у організаторов не было. Денег на фестіваль нікто не давал кроме тех, что публіка пробашляла, да і то не вся, поэтому свої добавілі. Аппарат-то везті надо, а заграніца не помогает. Грантов не держім.
2. Музыканты, включая Джіма, который тоже не вчера із перехода вылез (чітай «вырос»), і словамі і інструментамі владелі хорошо, хотя, выступалі как-то не по-летовскі. Впрочем, храм Летова нікто устраівать не собірался. Не обешчалі і даже не заікалісь.
3. І почему іменно Летов? Летов ні для кого із музыкантов не был ідеалом, даже для Майка Васіліча. На Летова нікто похож не был, ну, разве что отдаленно группа «Ключ» с Чайкой-вокалісткой. (Шутка.) А вообшче Летов і Кобейн – не едінственные фігуры для сравненія. Есть і другіе. Джон Леннон, напрімер. І начінается на «Л», і очкі как у Летова.
4. Публіка фестіваля – не только девочкі і тупые школьнікі. Основная часть была достаточно взрослой, в том чісле і за 30. Средній возраст аудіторіі был не младше 22 лет.
5. Классовый состав слушателей – не золотая молодежь 96-й пробы, ібо у тех свої песні і танцы в «Реакторе». Да і у пэтэушной молодежі другіе вкусы. Так что на сэйшэне в основном собралась малоімушчая эліта – пролетарії умственного труда. 6. Ісполнітелі не явілісь із ніоткуда. Оні участвовалі в серіі «квартірных» творческіх вечеров «Портреты» ешче в 1997-м. І до того, і после тоже ігралі і даже альбомы делалі, а кто і в начале 90-х. А хоть бы те же «Багры». А хоть бы і Пукст – участнік первого концерта для панков в Мінске в 91-м году, проходівшем во внутреннем дворіке Академіі художеств. Группа «Король пчел». Подробнее – ішчіте легендарный саміздатовскій журнал «Alter Alternative».
7. Непонятно кто заранее распустіл слух о націонал-большевістской окраске фестіваля і політізірованності. Організаторы к этому слуху отношенія не імеют і прослышалі о нем уже после фестіваля.
8. «Какіе былі там жучкі, букашкі, мошкі, червячкі. А слона-то я, брат, і не заметіл». Главным фужером ілі фуршетом... Главным фурором сталі Коллектів ім. Хорошего человека, Сергей Пукст, Константін Концевой із Могілева і Тарас Монзано із Гомеля. Про ніх – ні гу-гу.
9. Організаторы фестіваля розовых очков не носят і с самого начала особого оптімізма не піталі по прічіне см. п. 1. Недовольство Владіміра Ареховского публікой понятно. Но ведь і публіка тоже не віновата. Человек, взявшійся прігласіть Ареховского, запамятовал сообшчіть, что ліміт времені на группу – 30 мінут. А Владімір отыграл на целый час. Вот караул і устал. Тот же товарішч забыл об'ясніть ему концепцію і основную ідею фестіваля.
10. А теперь для всех. Про тесто песен не было. «Фрескі» – это люді, которые в условіях тотальной культурной контрреволюціі тянут на себе культурную эволюцію.
P.S. Вот так вот мы без вы...нов мы делаем ох...ную музыку, чісто простые пацаны із Беларусі. Організаторы фестіваля пріносят ізвіненія Владіміру Ареховскому (помімо тех, что прозвучалі в кулуарах) і перед всемі остальнымі за случавшуюся лажу.

**Fighter**

### P.P.S.

Эта пісьмо стала сваяго рода атветам неізьвеснава чытаценя на мацяр'ял «Фрэскі ў храме імяні Летава вясной 2001» (*Навінкі*, №5, 2001), пасьвяшчонны фесьцівалю летаўскай песьні. Прадаўжаць палеміку ў духе «Шырлі а моськах» наверна ня стоіт. Хацелась бы толька абраціць уніманіе дарагіх чытацелей на тот факт, што *Навінкі* не яўляюцца сьпецыялізіраваным музыкальным изданіем, а рассматрываюT атдзельныя эляменты культурнай жызьні ў канцексьце актуальных абшчэственных працэсаў (атсюда неабаснованасьць прэтэньзій цех, пра каго «ні гу-гу»).
Цем ня менее, опшчыства зашчыты саўрыменнага беларускага езыка рашыла пайці наўстрэчу пажыланіям чытацелей і падгатовіць мацяр'ял пра сланоў.
(См. вышэ – «Маманты на балоце»)

# Чарнобыльскі Шлях:

Пачынаў Чарнобыльскі марш у якасьці акцыі пратэсту супраць экалягічных злачынстваў дзяржавы. Цяпер і назаўседы - гэта галоўны хіт беларускай апазыцыі, дзе меняецца толькі фармат. У гэтым годзе гэта будзе нешта сярэдняе паміж крывавай нядзеляй 1905 і захопам эскадронам Басаева клініцы ў Будзёнаўску. У беларускім варыянце замест жывога шчыту зь цяжарных кабетаў выступяць замежныя дэпутаты, шпіёны і дыпляматы. За іхнымі ватнымі сьпінамі змогуць беспакарана бясчынстваваць «зубры», «легіянэры» і іншыя белыя глядыятары адраджэньня. Малодзенькі амапавец з Ганцавічаў задрыжыць як ліст канопляў, калі пабачыць у бінокль на лацкане перадавога дэманстранта бэдж «Der Volksdeputat der Oberbundestag». Шэрагі сатрапаў рэжыму расступяцца. Але прад гэтым мы як сьлед памолімся на Плошчы Свабоды па розных рэлігійных мэтодыках. Пабачыўшы ідалы і крыжы Беларускай Аўтакефальнай Царквы, міліцыянты апусьцяцца на калені і пачнуць грызьці асфальт у пакаяньні. Пад звон званоў у клубах ладана і смуроду фіміяма Аятолы павядуць нас у бой. Абліўшы Дом Ураду цыстэрнай сьвятой вады, крыжакі дэмакратыі працягнуць прыхажанаў да Прэзыдэнцкага палацу. «Сыдзі, сатана!» тройчы завапіць экзальтаваны натоўп. і тады адбудзецца цуд. Богаагідны герб –«капуста» адпадзе як кароста з фасаду дзяржаўнага будынку. На яго месцы зазьзяе дыядэмамі Пагоня. А на кані з уласным мечам будзе сам сьвяты Язафат Кунцэвіч. Акцыю пакажуць па Euro News у рубрыцы No comment. Гэта будзе трыюмф! Такі сцэнар распрацаваны на гэты год. А што будзе ў 2002, 2003, або ў 2006, калі другі тэрмін Лукашэнкі скончыццаі Каб быць удалым у вачах тэле- і фотагледача і не ператварыцца ў аналяг кастрычніцкай дэманстрацыі (дзе зараз тыя фармальныя тусоўкі па разнарадцы райкамаі), «Чарнобыльскі шлях» павінен пастаянна шукаць новыя формы выражэньня смутку па зьверствах камуністычнай радыяцыі. Тут зацейнікаў ад апазыцыі ня могуць не зацікавіць нашы парады наконт варыянтаў вулічных акцыяў, каталёг якіх «Навінкі» прапануюць усім жадаючым.



## 1. «Chernobyl Pride».

У авангардзе калёны горда йдуць самыя калярытныя фігуры: прадстаўнікі сэксуальных меншасьцяў, прастытуткі і разьняволеная моладзь з «Маладога Фронту». Станоўчыя моманты: «эўрапейскасьць», дэмакратычны імідж апазыцыі, эратычнасьць. Адмоўныя моманты: для адмарозкаў - цяжкасьці ў вядзеньні вулічных баёў у панчохах і на высокіх абцасах, для астатніх - расьцяканьне макіяжу ў выніку ўжыцьця «чаромхі», некаторых на «підарскую» акцыю могуць увогуле не пусьціць бацькі.



## 2. «Чарнобыльская Маёўка».

Удзельнікі акцыі выяжджаюць на шашлык і, расьпіваючы сьпіртное, прамаўляюць тосты за здароўе ахвяраў экалягічнай трагедыі. Станоўчыя моманты: сьвежае паветра, фармат акцыі выключае масавы хапун, дзякуючы чаму пратэст можа мець агульнасямейны характар. Адмоўныя моманты: рызыка забруджваньня лесапасадак выкарыстанымі плястмасавымі стаканчыкамі, небяспьека лясных пажараў і ідэалягічных разборак у стане алкагольнага ап'яненьня.



## 3. «Чарнобыльскі Марафон».

Апазыцыя закупаецца кедамі, трусамі, анаболікамі і эстафетнымі палачкамі. 42 км бягуць усе. Станоўчыя моманты: прапаганда здаровага ладу жыцьця, мабільнасьць і няўлоўнасьць. Адмоўныя моманты: адышка падчас прамовы на мітынгу, парушэньне субардынацыі (кіраўніцтва можа прыбегчы апошнімі), праблемы з разгаротам транспарантаў на хаду і выкарыстаньнем сьвятароў і сьвечак.

## 4. «Чарнобыльскі Мардзі Грас».



Вулічны начны карнавал з гала-шоў на стадыёне. Станоўчыя моманты: эстэтычнасьць, турыстычная экзатычнасьць і дэманстрацыя неўміручага аптымізму Беларусі, якая ня гляедзячы на трагедыю, знайшла ў сябе сілы ўстаць, танчыць і сьмяяцца. Адмоўныя моманты: па правілах карнавалу неабходна пераапранацца ў касьцюм супрацьлеглай табе асобы. Лідэры правых партыяў будуць павінны апрануцца ў прыкіды «хачыкаў» хачыкаў, дэмакраты - у камбінэзон Лукашэнкі, лукашысты - у адмарозкаў і г.д.).



## 5. «Чарнобыльскі Дзень Хаосу».

Спраектаваныя масавыя беспарадкі з абавязковым разграбленьнем буцікаў і ўнівэрмагаў. Апошнія рэкамэндуецца падпаліць. Станоўчыя моманты: антыімпэрыялістычнасьць акцыі (для кожнага актывіста апазыцыі магчымасьць разграміць усе камкі, дзе падаюць ненавісную «Балтыку», канфіскаваць яе і ў волю выліваць на зямлю). Адмоўныя моманты: ананімнасць лідэраў (лідэры апазыцыі, апрануўшы ў маскі-балаклавы, нават калі й трапяць у камэры, ня будуць адрозьнівацца ад шарговых сяброў).

## 6. «Чарнобыльскі Суботнік».

Апазыцыя калёнамі выходзіць на сьвята працы ў выходны дзень на аб'екты камунальнай гаспадаркі. Усе працуюць як стаханаўцы. Станоўчы момант: дэмакратычнасьць. Кожны можа пацягаць бервяно або трубу разам зь Чыгіром, Домашам, дэпутатамі замежнага парлямэнту, прадстаўніком кліра, або операм. Адмоўны момант: садамазахізм (пафарбоўка сьценаў і забораў патрабуе зьнішчэньня уласных апазыцыйных графіці).





## 6. «Чарнобыльская пілігрімка».

Пешая вандроўка апазыцыі па маршруту Плошча Свабоды (Менск) - 4 рэактар (Чарнобыль) з малітвамі, самабічаваньнем і галосным пяяньнем жалобных гімнаў. Апошнія кілямэтры да саркафагу рэкамэндуецца прапаўзьці на каленях. Станоўчы момант: наглядны катарсыс нацыі ад матэрыяльных забабонаў, правакацыйнасьць, бо АМАП не зразумее нашто мачыць дэманстрантаў, якія і так сябе лупцуюць пугамі. Адмоўны момант: ня многія вытрымаюць працяглы пост, сьціраюцца калені, ёсьць небясьпека загаварыцца на розных мовах.



## 8. «Чарнобыльскі вайсковы парад».

Сьвяточны ваенны смотр-парад ахвяраў чарнобыльскай трагедыі. Парад прымае кандыдат ад апазыцыі на прэзыдэнцкіх выбарах. Рэкамэндуюцца факелы замест сьвечак і кадзілаў. Станоўчы момант: Запалохваньне рэжыму, імідж дысцыплінаванасьці, арганізаванае вядзеньне вулічных сутычак у выпадку канфлікту з АМАПам. Адмоўны момант: Малая мабільнасьць чарнобыльскай ліквідатарскай тэхнікі ў баявых умовах.

# ШОП



**DON'T PANIC!**
D.I.Y. зін, punk/hardcore & more
**Адрас**: Ігар Конік, п/с 205, 220107 Менск
Выйшла 2 нумары: №1-1999, №2-2000
20 старонак/A5 фармат/ расейская мова



**ЗАЯБОК**
D.I.Y., агляд музычнай сцэны, інтэрвію
**Адрас**: Ягор Дзікун, п/с 473, 220047 Менск
**E-mail**: zb-egor@europe.com
Выйшаў 1 нумар
48 ст./A5/рас.мова



**РЕБРО ЖЁСТКОСТИ**
sXe/ska/antifa
**Адрас**: да забатрабаваньня Драгун Я. пр-т Скарыны 10, 220050 Менск
**E-mail**: stay_str8@usa.net
Выйшла 2 нумары
A6/рас. мова



**LEFT HANDER**
sXe, экалёгія, вегетарыянства
**Адрас**: З. Юркевіч, п/с 16, Ратамка, 223035 Менская вобл.
**E-mail**: lefthunder@mail.ru
Выйшаў 1нумар
A5/рас. мова



**БЕЗ НАМОРДНИКА**
Punk/hc зін
**Адрас**: п/с 55, 220029 Менск
**E-mail**: h8red@mail.ru
Выйшла 2 нумары
A5/рас. мова



**КЕН-ГУРУ**
Агляд мясцовай сцэны, дасьве на Oi!-музыку
**Адрас**: п/с 13, 230005 Гародня
**E-mail**: buntuima@mail.ru
Выйшаў 1 нумар
A5/бел. мова



**Б-Р-Р-Р**
D.I.Y. зін, жыцьцё гарадзенскай панк-тусоўкі
**Адрас**: п/с 52, 230010 Гародня
**E-mail**: xmasalx@aport2000.ru
Выйшла 2 нумары
A5/рас. мова



**ПАДЁЖ СКОТА**
Тусовачны зін зь Сьветлагорску
**Адрас**: Лёша, м-н 6А, 3-51 Сьветлагорск, 247400 Гомельская вобл.
Выйшла 2 нумары
A4/рас. мова



**ЕН!**
Прафэмінісцкі арт-зін
**Адрас**: п\с 86, 10 адз. сув., 225320 Баранавічы
Выйшла 5 нумароў
A4/бел. і рас. мовы



**РАБОЧИЙ ГУДОК**
Каляжы, апавяданьні, казкі
**Адрас**: п/с 237, 230023 Гародня
Выйшаў 1 нумар
40 ст./A4/рас. мова



**FOOTBALL X FLIES**
Антыфа-футбол
**Адрас**: п\с 86, 10 адз. сув., 225320 Баранавічы
Выйшаў 1нумар
8стр/A5/рас.-бел.-трасянка



**БУНТУЙМА**
Газэта радыкальнага крыла незалежнага прафсаюза студэнтаў ГрДУ
**E-mail**: buntuima@mail.ru
Выйшла 5 нумароў 1999-2000
2 ст./A3/бел. і рас. мовы



**ДЕЗЕРТИР**
Анарха-панк, антыфашызм
**Адрас**: Зьміцер, вул.Камарова 22\а-76, 230015 Гародня
Выйшаў 1 нумар
36ст./A6/рас. мова



**ПРАВАКАТАР**
Анарха-панк зін
**Адрас**: п/с 13, 230005 Гародня
**E-mail**: stasbyl@tut.by
Выйшаў 1 нумар 8ст./A5/бел і рас. мова



**КАРОТКІ КУРС ГІСТОРЫІ АНАРХІЗМУ**
пад рэд. Паўлюка Канавальчыка
Брашура, кошт 500 руб. з улікам перасылкі
**Адрас**: п/с 33, 220134 г. Менск
36 ст./A5/бел. мова








## Нашыя кантакты:

п/с 33, 220134 Менск
cz_navinki@tut.by

# ЧОРНЫЯ НАВІНКІ

10-20 красавіка 2001 №1

СПЭЦЫЯЛЬНАЯ РУБРЫКА ГАЗЭТЫ "НАВІНКІ" #6

Што рабіць, калі цябе не задавальняе той фільтрат, які прапануюць табе СМІ? Што рабіць, калі твой асабісты голас ня можа прабіцца скрозь натоўп прафэсійных журналістаў, рэдактараў і г. д.? Як данесьці свае думкі да іншых і знайсьці інфармацыю, якой няма месца на іхніх старонках і ў іхным эфіры?




# Самвыдат памёр! Жыве самвыдат!

